# Чаму беларусы хочуць жыць «як усе», а «не лепш за іншых»

**Як адрозьненьні паміж беларусамі і расейцамі адлюстраваныя ў рэклямных лёзунгах? Ці сапраўды жыцьцёвы і спажывецкі лёзунг беларусаў – «Жыві, як усе», а ў расейцаў – «Жыві лепш за іншых»? Асаблівасьці паводзінаў беларусаў - гэта вынік гістарычнага ўзросту ці жыцьцёвы стыль? На гэтыя пытаньні шукалі адказу ўдзельнікі перадачы на Радыё Свабода – супрацоўнік камэрцыйнага аддзелу фірмы «Гомельшкло» Яўген САСУНОЎ, філёзаф і культуроляг Валянцін АКУДОВІЧ і журналіст Юры ДРАКАХРУСТ.**

**Дракахруст:** Нядаўна ў расейскім інтэрнэт-выданьні E-generator.ru зьявіўся артыкул «Пасіянарная тэорыя і рэкляма» беларускага аўтара Яўгена Сасунова – удзельніка нашай размовы. Ён паспрабаваў вызначыць адрозьненьні паміж беларусамі і расейцамі праз рэкляму, якая ідзе ў абедзьвюх краінах і, карыстаючыся тэорыяй этнагенэзу Мікалая Гумілёва, патлумачыць гэтыя адрозьненьні. У чым жа яны палягаюць?

**Сасуноў:** Назіраючы за рэклямнымі блёкамі, якія ідуць у Расеі і ў Беларусі, я высьветліў, што катэгорыі тавараў і паслугаў, якія рэклямуюцца ў дзьвюх краінах, у бальшыні выпадкаў не супадаюць. У Расеі ідзе рэкляма новых легкавых аўтамабіляў, у Беларусі – акумулятараў, у Расеі – кватэраў «пад ключ», у Беларусі – будаўнічых матэрыялаў, у Расеі – касмэтыкі, у нас – лекаў, у Расеі – ежы для падлеткаў, у Беларусі – прыватных клінік па ўсіх захворваньнях.

Тыповы расеец вызначаецца прыярытэтам лідэра. Таму нават на апошнія грошы ён купляе ўсё лепшае: «У цябе добрая кватэра, у мяне лепшая! У цябе добрая машына – у мяне лепшая!» Для тыповага беларуса, дамінантай якога зьяўляецца талерантнасьць, усё наадварот: «У мяне такая ж машына, як ва ўсіх, такая кватэра, як ва ўсіх».

Абсалютна правальным вынікам скончылася кампанія «Фольксвагэна» і «Форда» прапанаваць на беларускі рынак новыя малалітражкі па цане патрыманых «Мэрсэдэсаў» і «БМВ». Прычына правалу: новая машына – гэта своеасаблівы выклік. А навошта гэта беларусу?

Самай упартай кампаніяй, якая спрабуе ўтрымацца на беларускім рынку, застаецца «Кока-Кола». Ёй дарэчы, можна параіць вярнуцца да рэклямнай стратэгіі пачатку 20-га стагодзьдзя – пазыцыянаваць свой прадукт як лек.

**Дракахруст:** Валянцін, наколькі дакладнымі падаюцца вам тыя адрозьненьні ў рэклямных «карцінах» у Беларусі і Расеі, пра якія піша Яўген?

**Акудовіч:** Тое, што рэкляма ў Беларусі і ў Расеі мусіць адрозьнівацца, бо, цытуючы Яўгена, «па дамінуючым мэнталітэту розьнасьць беларусаў і расейцаў вельмі вялікая» – гэта трапна. Таму тыя рэклямадаўцы, якія паверылі стэрэатыпу, сфармуляванаму расейскай гісторыяграфіяй і расейскай этналёгіяй, што расейцы і беларусы – гэта той самы народ, які цяпер толькі жыве ў розных дзяржавах, гэтыя рэклямадаўцы апынуліся, як кажуць, «у пралёце». Так ім і трэба. Трэба было б даўно ўсьвядоміць, што паміж расейцамі і беларусамі – мэнтальная бездань, праз якую нам ніколі не пераскочыць. Нашае падабенства – павярхоўнае, абумоўленае агульнай прыналежнасьцю да славянства і доўгай улучнасьцю ў Расейскую імпэрыю.

**Дракахруст:** А зараз што да высноваў, да якіх прыйшоў аўтар артыкулу «Пасіянарная тэорыя і рэкляма». Яўген патлумачце, пры чым тут тэорыя пасіянарнасьці Гумілёва?

**Сасуноў:** Беларусы як этнас, паводле Гумілёва, перажылі пасіянарны штуршок, усплёск жыцьцёвай энэргіі, ў 14-м стагодзьдзі і цяпер знаходзяцца ў фазе глыбокай абскурацыі, гістарычнай старасьці, якая характарызуецца жыцьцёвым імпэратывам – «будзь такім, як мы», лічыць Гумілёў. У расейцаў пасіянарны штуршок адбыўся ў 18-м стагодзьдзі, і зараз яны знаходзяцца ў фазе пасіянарнага ўздыму, якому ўласьцівы імпэратыў: «Мы хочам быць вялікімі».

**Дракахруст:** Яўген, крыху больш за 10 гадоў таму расейцы страцілі самую вялікую імпэрыю ў сваёй гісторыі – імпэрыю, якая сягала ад Берасьця да Курылаў, а ў пэўным сэнсе – ад Гаваны да Ханою. Паўтаруся, яны яе страцілі і страцілі бяз бою. Можна прывесьці і яшчэ некалькі чыньнікаў расейскага сацыяльнага быцьця. У Расеі (як зрэшты і ў Беларусі) сьмяротнасьць перавышае нараджальнасьць. Расея займае адно зь першых мейсцаў у сьвеце паводле паказчыку самагубстваў. Няўжо ўсе гэтыя факты сьведчаць пра пасіянарны ўздым расейцаў? А ці ня сьведчаць факты пра адваротнае?

**Сасуноў:** Перш за ўсё я хачу цалкам пагадзіцца з Валянцінам, што беларусы і расейцы – гэта абсалютна розныя этнасы. Дастаткова блізкім да беларускага этнасу зьяўляўся этнас рускі, але рускі этнас распусьціўся ў расейскім этнасе. І гэты рускі складнік у расейскім этнасе вымірае, у той час як сам расейскі этнас дастаткова добра прагрэсуе. Нэгатыўныя фактары, якія вы прыгадалі, уласьцівыя толькі адной частцы расейскага этнасу, толькі тым рэліктам, якія апынуліся на мяжы цяперашняй Расейскай Фэдэрацыі.

Па другім пытаньні, што да ўяўнага развалу і адступленьня расейскага этнасу і ягонага ўздыму, пра які пішу я. Напрыканцы 1980-х гадоў сфэрай яго ўплыву была Ўсходняя Эўропа. Але дзякуючы страце формаў Савецкага Саюзу, якія сталі для яго ланцугом і цяжарам, расейскі этнас здолеў на самой справе распаўсюдзіць свой уплыў далёка за гэтыя межы. Тое, што 25 год таму выглядала неверагодным – цяпер стала рэчаіснасьцю: расейскі бізнэс у Нямеччыне, расейскі культурны ўплыў у ЗША і гэтак далей.

**Дракахруст:** Валянцін, паводле Яўгена жыцьцёвы прынцып беларуса: «Жыць гэтак жа, як іншыя», а прынцып расейца – «Жыць лепш за іншых». Калі гэта сапраўды так, то чым абумоўлены гэты беларускі жыцьцёвы прынцып? Ці гэта, як кажа Яўген, сьведчаньне гістарычнай старасьці беларусаў? Ці гэта спрадвечная (ці скажам, вельмі старая) стылёвая нацыянальная асаблівасьць? Гэтак жа, як у людзей: сустракаюцца асьцярожныя, маладынамічныя маладзёны і жвавыя, энэргічныя старыя. Але малаактыўны маладзён ня робіцца ад гэтага старым.

**Акудовіч:** Я ўсё ж хацеў бы паразмаўляць пра Гумілёва, трошкі адсланіўшыся ад вашай слушнай размовы пра гістарычны ўзрост і гістарычны характар. Гумілёў, гаворачы словамі Міхаіла Бахціна, працаваў зь «вялікім часам», гэта значыць, з цэлымі эпохамі. І таму цяжка, зыходзячы зь нейкіх сучасных падзеяў, вызначаць сябе ў той ці іншай фазе этнагенэзу. Я б тут яшчэ запярэчыў Яўгену наконт пасіянарнасьці расейцаў, хаця ў параўнаньні зь ягоным артукулам, ён крыху ўскладніў сваю схему і казаў пра рускі і расейскі этнасы. Мне гэты падыход Яўгена падабаецца, бо нешта падобнае я мог бы сфармуляваць і наконт беларусаў.

Калі мы будзем зыходзіць з клясычнай тэорыі Гумілёва і ягонага разуменьня расейскага этнагенэзу, то ён лічыў, што пік расейскай пасіянарнасьці прыпадае на 18–19-ыя стагодзьдзі і потым пачынаецца спад, заняпад, што мы і бачым на свае вочы, калі сыходзіць з Гумілёва і даць яму веры.

Але ведаеце, даць веры Гумілёву цяжка, бо з 19-га стагодзьдзя пачаўся спачатку ў Эўропе, а потым і ва ўсім сьвеце, актыўны працэс паўставаньня нацыяў. Нацыя – гэта мадэрновае ўтварэньне, і было б занадта авантурна і схематычна пераносіць тэорыю этнагенэзу на тэорыю генэзісу нацыяў.

Вялікая амэрыканская нацыя, якая паводле Гумілёва, знаходзіцца цяпер у пасіянарным пэрыядзе, увогуле ня мела стадыі этнасу – яна адразу паўстала як нацыя.

Што да несупадзеньня гістарычнага ўзросту і гістарычнага характару, пра што вы, Юры, казалі, то ці не залішне мы спрошчваем сытуацыю, калі зьвязваем пасіянарнасьць народу ў першаю чаргу з вонкавай экспансіяй, з мэсіянскімі памкненьнямі? Калі эўрапейскаму чалавеку жылося лепей? Тады, калі ён пасіянарна імкнуўся калянізаваць увесь сьвет ці цяпер, калі Эўропа, паводле ня толькі Гумілёва, але і Освальда Шпэнглера, знаходзіцца ў заняпадзе, прынамсі ўсё 20-е стагодзьдзе? Калі мы паглядзім на гісторыю чалавецтва з гледзішча асобнага чалавека, а не этнічных ці нацыянальных утварэньняў, то пасіянарныя часы, асабліва для простых людзей – гэтая самыя горшыя часы. Потым, магчыма, гэта складзе веліч нацыяў, зьменіць усясьветны дызайн, але я б асабіста не хацеў бы жыць у эпоху пасіянарнасьці.

**Дракахруст:** Пасіянарныя эпохі не пытаюць згоды, яны прыходзяць самі. Яўген, я мяркую, што Валянцін выказаў дастаткова пярэчаньняў наконт вашай схемы. Я даю вам магчымасьць адказаць. Але я б прасіў вас, адказваючы, мець на ўвазе тое пытаньне, якое я задаваў Валянціну: асаблівасьці беларусаў, іхныя адрозьненьні ад расейцаў, пра якія вы пісалі – гэта праява гістарычнага ўзросту ці гістарычнага характару? Па беларускіх землях цягам стагодзьдзяў хадзілі замежныя заваёўнікі з Усходу і з Захаду і ў выніку ў беларусаў сфармаваліся такія паводзіны (нават спажывецкія), якія дазволілі адаптавацца да такога неспрыяльнага гістарычнага асяродзьдзя?

**Сасуноў:** Адразу скажу, што Валянцін цалкам мае рацыю і жыць значна лепш у канчатковай фазе этнагенэзу – у фазе рэлікту, калі пераважнай большасьцю зьяўляюцца субпасіянарыі – гэта людзі, у якіх прынцып самазахаваньня пераважае ўсё. Злачыннасьць у гэтым выпадку – нулявая, традыцыі – устойлівыя, а жыцьцё – спакойнае. Наконт Эўропы і Шпэнглера. Нягледзячы на доўгую гісторыю, эўрапейскія народы на самой справе дастаткова маладыя. Калі мы гаворым пра сучасны нямецкі народ, то ён фактычна паўстаў у 18–19 стагодзьдзі, калі зьліліся прусакі, швабы, баварцы ды іншыя. Тое самае можна сказаць, скажам, пра Польшчу, Італію ці Францыю.

Адзінымі сапраўды старымі народамі ў Эўропе, на мой погляд, зьяўляюцца нашыя суседзі – народы Балтыі. І калі мы хочам ведаць, што з намі будзе адбывацца, мы мусім паглядзець на Літву, Латвію і Эстонію. Прычым, я назваў іх у той пасьлядоўнасьці, у якой нас усё гэта чакае.

**Радыё Свабода**

*Друкуецца ў скароце*

## Украіна пераходзіць на ўкраінскую мову ў эфіры



З 19 красавіка на Украіне спынена рэгістрацыя сродкаў масавай інфармацыі, якія не выкарыстоўваюць дзяржаўную мову. На Украіне дзяржаўнай мовай з'яўляецца толькі ўкраінская. Згодна з прынятым актам, цяпер усе тэлерадыёкампаніі павінны весці перадачы выключна на дзяржаўнай мове. Выключэнне складаюць толькі тыя каналы, якія вядуць перадачы на тэрыторыі кампактнага пражывання нацыянальных меншасцяў. Ім дазволена палову перадачаў весці на іншых мовах.

Такі дакумент прыняў Нацыянальны савет па пытаннях тэлерадыёвяшчання – орган, адказны за ліцэнзаванне СМІ. «Тэндэнцыя зараз адназначная. Украіна становіцца унікальнай дзяржавай Еўропы. Яна губляе ўласную мову, якая выціскаецца афіцыйнымі мовамі іншых дзяржаваў», – заявіў адзін з членаў савета Віталь Шаўчэнка.

Моўнае пытанне – вельмі балючае і значнае для Украіны, бо яна мае істотнае па колькасці расейскае і расейскамоўнае насельніцтва, сканцэнтраванае ў асноўным на поўдні і ўсходзе краіны. Украінскую мову называюць роднай 67 адсоткаў грамадзянаў краіны. Этнічныя расейцы складаюць 17 адсоткаў насельніцтва Украіны. Сітуацыю з прыняццем названага вышэй акту ілюструюць гэтакія факты: у васьмі рэгіёнах – Крым, Севастопаль, Харкаўшчына, Днепрапятроўшчына, Данецк, Луганск, Запарожжа і Мікалаеўшчына – мова перадачаў на ўкраінскай мове займала менш паловы эфірнага часу (ад 14 адсоткаў у Крыме да 46 адсоткаў на Мікалаеўшчыне).

## У Дзень Рэспублікі парад пройдзе па Іерусалімскай

Міністэрства абароны Беларусі пачало падрыхтоўку да ваеннага параду ў гонар 60-й гадавіны вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З-за будаўніцтва на плошчы Незалежнасці падземнага гандлёвага цэнтра і паркінга ваенны парад гэтым годам адбудзецца на вуліцы Іерусалімскай (яна перакрыжоўвае праспект Машэрава каля стэлы «Горад–герой Мінск».

## «Адна з горшых у Еўропе»

У 2003 годзе сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі заставалася «адной з горшых у Еўропе» і характарызавалася «практычна поўнай адсутнасцю дэмакратыі і павагі да прынцыпу вяршэнства закону». Такія высновы ўтрымоўваюцца ў штогадовым дакладзе пра парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, падрыхтаваным Міжнароднай Хельсінкскай федэрацыяй. Па дадзеных упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў, за студзень – верасень 2003 года 2.560 грамадзянаў Беларусі звярнуліся з просьбай атрымання палітычнага прыстанішча за мяжой.

У краіне, адзначае дакумент, практычна няма інстытутаў, «дзе афіцыйныя асобы выбіраліся б у адпаведнасці з дэмакратычнымі працэдурамі. Бальшыня з іх прызначаецца непасрэдна прэзідэнтам ці яго адміністрацыяй».

Такім чынам, у Беларусі не выконваецца прынцып вяршэнства закону і «ўплыў уладаў пастаянна павялічваецца». Дзеючы Крымінальны кодэкс і заканадаўства ў сферы эканомікі, адзначае даклад, дазваляюць «высоўваць абвінавачванні фактычна супраць любога чалавека». Гэта робіць магчымым «запужванне і маніпуляцыю чыноўнікамі, якія вызначаюцца крытычнымі настроямі».

У дакладзе адзначана, што працягваецца «задушэнне палітычных, сацыяльных і эканамічных правоў, якое стварала атмасферу страху ў краіне». У 2003 годзе, гаворыцца ў дакладзе, урад не выконваў свае міжнародныя абавязацельствы ў галіне правоў чалавека. Сярод найбольш сур'ёзных парушэнняў грамадзянскіх і палітычных правоў у Беларусі Міжнародная Хельсінкская федэрацыя называе заціскание правоў на свабоду асацыяцыяў, справядлівы суд, мірныя сходы, рэлігійную свабоду, а таксама непрытрымліванне дэмакратычных стандартаў у часе мясцовых выбараў у сакавіку 2003 года.

**БелаПАН**

# Пісьменнікаў навучыць пісьменнасці Мінюст



Так выглядае ўваход цяпер (з шыльдай)







А гэтак яго раюць «акультурыць» (без шыльды)

Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы, Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь па выніках праверкі дзейнасці Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) склала пералік вынайдзеных парушэнняў беларускага заканадаўства. Як гэта не дзіўна, але аказваецца некаторыя сябры пісьменніцкай арганізацыі нерэгулярна плацяць членскія ўзносы. (А ў сваіх творах пішуць пра высокія маральныя прынцыпы.) Па-другое, Саюз беларускіх пісьменнікаў захоўвае ля «чорнага» ўваходу ў будынак на вуліцы Румянцава шыльду са старым дзяржаўным гербам Беларусі (не з БССРаўскім, а з «Пагоняй»). На гэтым жа металічным помніку нядаўняй даўніны можна прачытаць назву, якая не адпавядае зарэгістраванай назве Грамадскага аб'яднання: на ёй напісана «Саюз пісьменнікаў Беларусі», а трэба «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Вось як здольныя блытаць людзей творцы. На бланках Саюза адсутнічаюць двукоссі, якія павінны аздабляць назву. Няма іх на пячатцы арганізацыі. У дататак да гэтых абуральных памылак некаторыя літаратары з уласнай волі стала пражываюць за межамі Беларусі.

Зразумела, што Міністэрства юстыцыі не можа заплюшчыць вочы на такія непаважныя адступленні ад законнасці і парадку, і таму ў сваім дакуменце па выніках праверкі папярэдзіла, што ў выпадку паўтарэння гэтакіх парушэнняў і невыпраўлення памылак пісьменніцкая арганізацыя можа быць ліквідаваная. Без увагі на тое, што яна праіснавала 70 гадоў, стварыла фундаментальны корпус беларускай літаратуры, падмурак нашай культуры, вядомая ў свеце.

І сапраўды, ліквідацыя дасць добры ўрок людзям, якія вучаць народ духоўнасці, а самі не ведаюць, дзе трэба ставіць двукоссе, і ўпарта захоўваюць ідэалагічна старую шыльду.

Не зашкодзіла б літаратарам памятаць і паўтараць кожны дзень крылатыя радкі: Паэтам можаш ты не быць, а грамадзянінам быць абавязаны. Свядомы грамадзянін ведае, што трэба браць у двукоссе, дысцыплінаваны адносна ўзносаў і, зразумела, не можа прыняць, каб нехта стала пражываў за мяжой. Вершы і аповесці кожны дурань напіша, асабліва жывучы за мяжой. Калі хочаш пісаць і быць у Саюзе – жыві тут, як усе, а калі не жывеш, як усе, – значыць, ніякі не беларускі пісьменнік. І Саюз мусіць паставіць пытанне рубам – ці вяртаешся на радзіму, ці пазбаўляешся звання пісьменніка. (На жаль, пакуль што не зусім зразумела, праз які механізм: з уласна пададзенай заявы ці агульным галасаваннем сяброў Рады пісьменніцкай арганізацыі? І ці адносіцца такое патрабаванне да пісьменнікаў, якія жывуць у другой палове саюзнай дзяржавы.)

Адным словам, ёсць над чым задумацца нашым юрыдычна малапісьменным членам творчага Саюза. Як той казаў, век жыві – век вучыся.

## «Культурная вайна ў Беларусі»

***Найбольш змястоўны шведскі сецевы рэсурс, прысвечаны Беларусі, www.vitryssland.ny змясціў артыкул «Культурная вайна ў Беларусі», з якім, на нашу думку, будзе цікава і карысна азнаёміцца нашаму чытачу. Карысна, бо варта ведаць, як мы ўяўляемся іншым людзям, далёкім ад нашай няпростай рэальнасці, як нас падаюць шведскай чытацкай аўдыторыі.***

Нягледзячы на тое, што шведы не вельмі абазнаныя ў беларускай сітуацыі, шведска-беларускія кантакты маюць доўгую гісторыю. Ёсць у дзвюх культурах і шмат падабенстваў, супольныя накірункі развіцця і праблемы. Адна з іх – пераход да полікультурнага грамадства.

Беларуская сітуацыя, аднак, больш складаная, чым шведская. Усеабдымныя савецкія культура і ідэалогія сышлі, не пакінуўшы нічога пасля сябе. Прэзідэнт Лукашэнка падзяліў беларускае грамадства. Харызматычны лідэр і напрактыкаваны папуліст, ён віртуозна грае на пачуцці настальгіі і нацыянальных пачуццях той часткі насельніцтва, якая сумуе па савецкіх часох і з цяжкасцю ідэнтыфікуе сябе з паняццем «беларускі народ». Гэткія людзі ёсць ягонымі выбарцамі, іхную волю прадстаўляе ён, падпісваючы саюзныя пагадненні з Расіяй.

Гэтыя ж дзеянні выклікаюць пратэсты нацыянальна свядомай часткі грамадства. Гэтыя людзі выступаюць за самастойнасць і культурную незалежнасць краіны. Расія разглядаецца імі як супердзяржава, якой варта асцерагацца.

Ёсць і трэцяя катэгорыя грамадзянаў – гэта людзі, якія хацелі б жыць у незалежнай краіне, што б мела сяброўскія стасункі са сваім вялікім суседам. Гэтыя грамадзяне не бачаць канфлікту паміж беларускай і рускай культурамі і крыху пабойваюцца беларускага нацыяналізму.

Такі падзел, канечне, прыблізны, але агулам адлюстроўвае сучасныя беларускія рэаліі.

Усе тры групы жывуць у стане ціхай культурнай вайны, якая найбольш гучна праяўляецца ў моўнай праблеме. Ідэнтыфікацыя з групай адбываецца паводле мовы, якую ўжывае чалавек. Першая група, якую з агаворкамі можна назваць «савецкія беларусы», карыстаецца альбо рускай мовай, альбо мяшанкай з рускай і беларускай, так званай трасянкай. Групу складаюць людзі, якія найбольш пацярпелі ад постсавецкіх пераўтварэнняў: пенсіянеры, нізкаадукаваныя гарадскія і вясковыя жыхары. Яны кепска арыентуюцца ў палітыцы, але варожа ставяцца да заходніх дзяржаваў і падтрымліваюць Лукашэнку, часткова, таму, што ён размаўляе на іх мове, часткова, таму, што яны цалкам залежныя ад дзяржаўнай падтрымкі.

Другая група – «беларусы» размаўляе па-беларуску і складаецца з інтэлігенцыі, студэнтаў і іншых нацыянальна свядомых грамадзянаў. Яны змагаюцца з рэжымам, падтрымліваюць заходні лібералізм, частка з іх мае негатыўнае стаўленне да Расіі і рускай культуры.

Трэцяя група – «рускія» размаўляе па-руску і вельмі сацыяльна неаднародная. Большасць яе складаюць адукаваныя гараджане: рускамоўныя прадстаўнікі тэхнічных спецыяльнасцяў, інтэлектуалы і бізнэсмены. Гэтыя людзі звычайна ў апазіцыі да Лукашэнкі, хоць з большага не ўключаны ў палітычныя працэсы, і выступаюць за нармальныя кантакты і з Захадам, і з Усходам.

Жыццё падказвае, што з падзеннем рэжыму пачнецца развіццё дэмакратыі. Простым, аднак, яно не будзе. Нармальная дэмакратыя магчыма толькі ў выпадку ўзаемапавагі і ўзаемаразумення розных бакоў.

Мне падаецца, што нагода праблемы палітычнага непаразумення ў Беларусі – культурная. У Беларусі няма адзінай культуры і, у выніку, адзінай нацыі, бо менавіта культура ёсць падмуркам нацыянальнай самасвядомасці. Простая рэальнасць таго, што грамадства можа быць полікультурным і складацца з беларускага, рускага і нават савецкага элементаў, падаецца занадта складанай сучасным беларускім палітыкам і культурным дзеячам. І гэта не іх віна – гэта іх няшчасце.

Праблема ўскладняецца і тым, што нават тыя палітыкі, якія называюць сябе дэмакратамі, маюць таталітарны тып думкі і не могуць глядзець на рэчаіснасць з супрацьлеглых пазіцыяў.

Яшчэ адно ўскладненне – параўнаўчая слабасць беларускай культуры. Галоўная нагода гэтага – яе гвалтоўнае выцясненне культурай рускай. Але нагода яшчэ і ў тым, што беларуская мова зазнае тыя ж цяжкасці, што і кожная іншая лакальная мова ў сучасным свеце.

Як вырашыць гэтыя праблемы? Адзіны шлях – дыялог і супрацоўніцтва. Шлях да дэмакратыі доўгі і складаны. Але ісці трэба ўжо зараз.

**Dmitri PLAX**
**Пераклаў са шведскай**
**Дзяніс ТУШЫНСКІ**

# На ахове пісьменнасці

## Створана камп'ютэрная праграма праверкі арфаграфіі беларускамоўных тэкстаў

Беларусь як частка сусветнай супольнасці ўвайшла ў век інфарматызацыі. Камп'ютэр стаўся неад'емнай часткай жыцця. З дапамогай інфармацыйных сістэм усе беларусы, хочам мы таго ці не, далучаныя да інфармацыйных тэхналогіяў. Звесткі пра нас заносяцца ў агульныя базы дадзеных фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, выкарыстоўваюцца ў банкаўскай сферы і падатковых інспекцыях. Але на якой мове ў суверэннай Беларусі ствараюцца гэтыя базы дадзеных? Адказ відавочны - па-руску. Ці можна змяніць гэтую сітуацыю? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да намесніка старшыні ТБМ Сяргея Кручкова і галоўнага распрацоўшчыка праграмы праверкі арфаграфіі беларускамоўных тэкстаў Фёдара Піскунова.





**Кар.: Спадар Фёдар, 8 красавіка ў газеце «Наша Ніва» быў надрукаваны артыкул пра створаны электронны руска-беларускі перакладчык над якім вы працавалі каля аднаго года.**

**Фёдар Піскуноў.** На жаль, у нататцы газеты «Наша Ніва» закралася пэўная недакладнасць. Гаворка вялася пра створаную праграму праверкі арфаграфіі беларускамоўных тэкстаў, у якой будзе прадугледжана функцыя паслоўнага перакладу. На маю думку, такая праграма больш актуальная, чым руска-беларускі перакладчык (хаця я і не адмаўляю вялікай запатрабаванасці ў электронных перакладчыках). Але зараз гаворка пра іншае. Усе без выключэння карыстальнікі камп'ютэраў краіны, якія пішуць па-беларуску, знаходзяцца ў няроўным становішчы адносна рускамоўных карыстальнікаў. Бо дагэтуль не было праграмы праверкі беларускай арфаграфіі. Усім вядома, што чалавеку ўласціва памыляцца, і ён (калі гэта не прафесіянал з шматгадовым стажам) часта не заўважае на экране камп'ютэра пэўную частку памылак у набраным тэксце. Стандартны ж пакет праграмы Microsoft Office мае шматмоўную падтрымку і рускамоўным карыстальнікам знаёмая функцыя праверкі арфаграфіі. Напісанае з памылкай слова падкрэсліваецца, а праграма дае падказку пра тое, як напісаць правільна.

**Кар.: Спадар Сяргей, а чаму дагэтуль кампанія Microsoft не зрабіла «арфаграфічнай» падтрымкі беларускай мовы ў сваім прадукце?**

**Сяргей Кручкоў.** Адказ на гэтае пытанне відавочны. Найперш, відавочна больш нізкі ўзровень выкарыстоўвання беларускай мовы ў параўнанні з рускай, значнай, калі не галоўнай, прычынай чаго ёсць недастатковая дзяржаўная падтрымка роднай мовы. Па-другое, ці шмат у Беларусі карыстальнікаў ліцэнзійных прадуктаў кампаніі Microsoft? Мяркую, што вельмі мала, і таму кампанія, якая не зацікаўленая ў нашым рынку не робіць ніякіх захадаў дзеля «беларусізацыі» свайго прадукту.

**Кар.: Спадар Фёдар, я ведаю, што распрацаваная вамі праграма падтрымлівае дзве правапісныя традыцыі беларускай мовы - афіцыйны і класічны правапіс. Як вы лічыце, ці змогуць у будучым абодва правапісы быць прадстаўлены ў «стандартным» пакеце Microsoft Word?**

**Ф.П.** У гэтым я не бачу вялікіх праблем. Ужо зараз прадстаўлена з дзесятак варыянтаў англійскай мовы, некалькі варыянтаў іспанскай і партугальскай, два варыянты нарвежскай (букмол і нюнорск) і д.п.. Іншая справа, што я з'яўляюся прыхільнікам канвергавання існуючых дзвюх правапісных традыцыяў. Магчыма, праз нейкі час мы станемся сведкамі такой канвергенцыі.

**Кар.: Спадар Сяргей, якія самыя вялікія цяжкасці сустракаліся падчас выканання працы над праграмай?**

**С.К.** На маю думку, найбольш цяжкім і балючым было асэнсаванне таго, што ніхто з паважаных дзяржаўных установ не вядзе на навуковай аснове рэестр беларускіх слоў. Менавіта таму многія беларускія словы не прысутнічаюць у акадэмічных слоўніках і распрацоўшчыкам прыйшлося рабіць свой уласны электронны рэестр на падставе дзесяткаў беларускіх слоўнікаў розных гадоў выдання. Хоць у прадстаўленым прадукце мы і не прэтэндуем на «ўсеахопнасць» беларускай лексікі. Наперадзе ўсіх нас чакае вялікая праца па ўдасканаленні прадукту.

**Кар.: Як вы лічыце, ці зможа значна паўплываць створаная праграма для больш шырокага ўжывання беларускай мовы ў краіне?**

**С.К.** Безумоўна. Пэўна вы ведаеце, што ў 2003 годзе ТБМ дамаглося ад Дзяржстандарта Беларусі рашэння пра тое, што падчас афармлення тавараў абавязкова будзе выкарыстоўвацца беларуская мова. Але, пасля Дзяржстандарт адмяніў уласнае рашэнне, абгрунтаваўшы тым, што на большасці прадпрыемстваў краіны не змогуць пісаць па-беларуску без памылак. Але зараз любы карыстальнік на любым прадпрыемстве, які валодае беларускай мовай на мінімальным узроўні, з дапамогай праграмы зможа набраць тэкст і правесці карэктуру. Мяркую, што знікне глеба для спекуляцый у некаторых дзяржаўных ведамствах і ўстановах, якія на запыты грамадзян па-беларуску давалі адказы па-руску, бо спасылаліся на тое, што ў недастатковай ступені валодаюць беларускай мовай (што, дарэчы, з'яўляецца парушэннем артыкула 4 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», дзе сказана: «Абавязак кіраўнікоў, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў валодаць беларускай і рускай мовамі.

Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў).

**Ф.П.** Мяркую, што павінна знізіцца колькасць «русізмаў» і «паланізмаў» у беларускіх газетах і часопісах. Да таго ж укараненне праграмы ў працы беларускіх выдавецтваў дасць значны эканамічны эфект, палегчыць працу карэктараў. Трэба ўлічыць і тое, што большасць беларускамоўных выданняў – гэта малабюджэтныя прадпрыемствы, якія не ў стане трымаць вялікі штат карэктараў. Яны атрымаюць шанец падвысіць сваю канкурэнтаздольнасць на рынку. І наогул, я лічу, што ў цяперашніх умовах пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў камп'ютэрных праграмах – гэта стратэгічная задача, бо «беларускамоўныя» электронныя праграмы – такі ж элемент суверэнітэту, які і ўласныя энцыклапедыі.

**Кар.: А вы ці не баіцеся крытыкі вашага прадукту з боку лінгвістаў?**

**С.К.** Не крытыкуюць толькі тых, хто нічога не робіць. Мы з удзячнасцю прымем любую крытыку і заўвагі, якія змогуць палепшыць праграму.

**Ф.П.** Мяркую, што крытыка будзе абавязкова і я яе чакаю. Адачасова хацеў бы выказаць падзяку ўсім, хто спрычыніўся да стварэння праграмы. Гэта найперш супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства НАН Яўгенія Волкава, Валянціна Авілава, Уладзімір Кошчанка, якія ўзялі на сябе значную частку карэктарскай апрацоўкі слоўнага рэестру. Каштоўныя кансультацыі даваў прафесар Генадзь Цыхун. Былі ўлічаныя напрацоўкі Вінцука Вячоркі, Зміцера Саўкі, Юрася Бушлякова, Зміцера Санько, Сяргея Шупы.

**Дзякуй за размову. Далейшых вам творчых поспехаў.**

**Гутарыў Альберт ГРЫНЬКА**

# Асадзі назад!

## Рэжым духоўнай акупацыі для выпускнікоў беларускамоўных школ



Сёлета адбываецца чарговы эксперымент у сферы адукацыі. Выпускнікі школ праходзяць добраахвотнае цэнтралізаванае тэставанне. Ужо зараз чуюцца галасы пра непадрыхтаванасць з боку ўладаў да правядзення тэстаў. Пра гэта гавораць не толькі спецыялісты ў галіне адукацыі, але і самі дзеці, якія заўважаюць хібы ў заданнях. Пра гэта паведамляе і дзяржаўнае тэлебачанне.

Але пра што маўчыць тое ж тэлебачанне, самі дзеці і іх бацькі? Маўчаць пра тое, ці дадзена права выбару мовы, на якой праводзіцца тэставанне. А як высвятляецца ў нашай білінгвістычнай (паводле Канстытуцыі) краіне, тэсты складзены толькі па-руску. Намаганнямі чыноўнікаў ужо значна скарацілася колькасць дзяцей, якія навучаюцца на роднай беларускай мове. Сёлета заканчваюць беларускамоўныя школы каля 22% выпускнікоў. Але для ўладаў гэтая лічба занадта вялікая. Напэўна, на іх думку, яны яшчэ не ўсё зрабілі да поўнай ліквідацыі беларускамоўнага навучання. Ім мала, што ў краіне няма ніводнай беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы, што, дарэчы, з'яўляецца вызначальным падчас так званага «выбару мовы навучання» бацькамі. На сёлетнім цэнтралізаваным тэставанні створаны яшчэ адзін дадатковы стымул. Калі хочаш, каб сын або дачка атрымалі вышэйшую адукацыю – аддавай у рускамоўную школу, змагайся з бацькамі, якія намагаюцца стварыць беларускамоўны клас у школе. Бо сёлета нам выразна паказалі, што выпускнікі беларускамоўных школ – людзі другога гатунку. Пра гэта сведчыць ліст на імя ТБМ дырэктара Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў спадара М.С. Фяськова. Ён шчыра прызнаецца, што «тэставыя заданні падрыхтаваны на рускай мове без адпаведнага перакладу на беларускую мову». А што ж рабіць амаль чвэрці выпускнікоў, што вучыліся па-беларуску? А для іх спадар Фяскоў мае «цудоўную» адгаворку: тэставанне, маўляў, толькі на «добраахвотнай аснове». Вось так! Такім чынам, калі ты беларус і яшчэ небарака вучыўся на роднай мове ў школе, ты можаш «добраахвотна» не праходзіць тэставанне. Табе празрыста намякаюць: адмоўся ад беларускай мовы і будзеш як усе мець роўныя магчымасці для здачы тэстаў па-руску. Бо дзяржава не зважае на тое, што ты больш за 10 гадоў вучыўся па-беларуску, вывучаючы хімію, фізіку, біялогію, засвоіў тэрміналогію на беларускай мове, якая моцна адрозніваецца ад рускай. Арганізатары цэнтралізаванага тэставання не парупіліся стварыць табе, братка-беларус, нармальныя ўмовы ў адпаведнасці з уласнай Канстытуцыяй, артыкул 14 якой гаворыць: «Дзяржава рэгулюе адносіны паміж сацыяльнымі, нацыянальнымі і іншымі супольнасцямі на аснове прынцыпаў роўнасці перад законам, павагі іх правоў і інтарэсаў». А ў 50-м артыкуле Канстытуцыі краіны кожнаму грамадзяніну гарантуецца права карыстацца роднай мовай. Не звярнулі ўвагі чыноўнікі ад адукацыі і на артыкул 6 Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», які гучыць наступным чынам: «Усякія прывілеі ці абмежаванні правоў асобы па моўных прыкметах недапушчальныя. Публічная знявага, ганьбаванне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі, пропаведзь варожасці на моўнай глебе цягнуць устаноўленую законам адказнасць».

Узнікае пытанне – дзе, у якой краіне свету і пры якім рэжыме так бессаромна парушаецца заканадаўства аб мовах? Звычайна такія адносіны да мовы карэнных жыхароў дэманструюць акупацыйныя ўлады, якія на словах абяцаюць «мясцовым абарыгенам» захаванне моўных правоў, а на справе робяць усё магчымае, каб выцiснуць мову з усіх сфераў жыцця. Але гэтым разам чыноўнікі ад адукацыі заклалі «міну запаволенага дзеяння». Упэўнены, што ў самы бліжэйшы час **бацькі дзяцей з беларускамоўных школ прачнуцца і звернуцца з адпаведнымі скаргамі ў Міністэрства адукацыі, Вярхоўны і Канстытуцыйны суды, каб аспрэчыць відавочнае парушэнне правоў сваіх дзяцей карыстацца роднай дзяржаўнай беларускай мовай.**

**Сяргей КРУЧКОЎ**

# Святла, што сыходзіць да нас...



Аглухлае хто чэша вуха,
Хто забыцця напоі п`е,
Таму ў барабаны Духу
Нястомна Барабанцаў б`е...
*Вольга Іпатава.*
*«Прысвячэнне мастакам»*

Сёння, калі ўсё больш гучна і настойліва сур`ёзныя вучоныя гавораць аб глабальнай зямной катастрофе, многія творцы адчуваюць той тонкай інтуіцыяй мастака, якую ім даў Усявышні, што і ад іхняга ўнёску ў сусветнае энерга-інфармацыйнае поле можа залежаць лёс Зямлі, бо хто ведае, якая кропля акажацца вырашальнай на сусветных шалях Дабра і Зла.

Віктар Барабанцаў, здаецца, і не рашаў гэтую праблему – у ім заўсёды жыло адчуванне святла, і яно шчодра праменіцца ў ягоных творах, будзь гэта мазаіка альбо жывапіс, фрэскі альбо энкаўстыка. Але ёсць дзве тэмы, у якіх ён, як і кожны сучасны мастак, шукае адказу на складаныя пытанні быцця. Гэта Чарнобыль як катастрофа фізічная і духоўная і пераадоленне яго наступстваў дзеля захавання жыцця на зямлі.

Пра яго «чарнобыльскія» карціны шмат пісалі ў друку, адзначаючы і выдатную тэхніку, і журботны настрой, які творцы ўмеюць ствараць толькі тады, калі прапусцяць праз сябе ўсё, што хочацца выказаць творам. Гомель, дзе нарадзіўся мастак, разам са сваімі раёнамі, дзе найпрыгажэйшыя ў Беларусі краявіды, атрымаў самую значную частку радыеактыўнага пылу, і Віктар Барабанцаў адным з першых беларускіх мастакоў паехаў туды, дзе яшчэ апантана цвілі асуджаныя на гібель сады і не разумелі ўсяго размаху бяды вёскі, што хутка знікнуць з твару зямлі. Яго трыпціх «Зона» быў своеасаблівым знакам бяды ў жывапісе, і перад такімі карцінамі, як «Эвакуацыя», «Кінуты двор», «Трывожны крык», заўсёды стаялі людзі, можа, толькі праз сродкі мастацтва спасцігаючы свет, у якім ім належала жыць, і тое, наколькі гэты, чарнобыльскі свет, розніцца ад ранейшага...

«Двары, што зараслі палыном...Шчодры ўраджай яблык – на снезе...Ніхто ніколі не пакаштуе яблыкаў, што нарадзіліся тут.... Закалочаная студня...Бусел, што памірае на калючым дроце... Кажуць, менавіта пачынаючы з цыкла «Зона» творчасць мастака Віктара Барабанцава набыла сімволіка–алегарычнае гучанне» – так пісала яшчэ ў 1998 годзе адна з рэцэнзентак на выставу мастака, што адбылася ў Палацы мастацтва.

У 1999 годзе старшыня архітэктурна–мастацкага савета Беларускага экзархату Генадзь Лаўрэцкі пісаў пра іншую тэму ў творчасці Віктара Барабанцава – пра ягоную працу над дэкаратыўнай праграмай комплексу храма ў гонар абраза Божай маці «Усіх тужлівых радасці», а таксама іншых яго так званых «царкоўных» творах, сярод якіх найбольш значным стаў вобраз святой Еўфрасінні Полацкай. Дарэчы, за ўсе гэтыя творы яму была прысуджаная прэмія «За духоўнае Адраджэнне».

Вяртанне ў наша жыццё найвышэйшых прыкладаў самаахвярнасці дзеля пагрузлага ў грахах чалавецтва – тэма не простая, яе нельга вырашыць зыходзячы толькі з разумовых настаўленняў і дарэмных заклікаў кіравацца ў жыцці божымі запаветамі. Мастак павінен сам узняцца да духоўных вышыняў і па-новаму асэнсаваць простыя, але і надзвычай складаныя законы, згодна з якімі толькі і можа выжыць чалавецтва. Разуменне гэтага Віктар Барабанцаў атрымаў у манастыры, дзе правёў увесь свой адпачынак 2001 года і дзе адшукаў прататып для свайго глыбока лірычнага і тонкага вобраза Еўфрасінні Полацкай. Блізкія яму і вобразы беларускіх асветнікаў – друкароў Францішка Скарыны, Пятра Мсціслаўца, а таксама і Івана Фёдарава (як усё болей настойліва кажуць навукоўцы - Хведаровіча), які стаў першым рускім друкаром. У постацях гэтых трох вялікіх людзей бачна высокая годнасць, а ў тварах – адчуванне сваёй высокай місіі перад чалавецтвам. Менавіта пасля тых духоўных адкрыццяў, якія спадарожнічалі працы ў храмах, Віктар Барабанцаў з новым імпэтам узяўся за стварэнне асветнікаў і волатаў Духу як былых – Міколы Гусоўскага, Сымона Буднага, Кірылы Тураўскага, Максіма Багдановіча, так і сённяшніх – тых, хто, ідучы за сваімі вялікімі настаўнікамі, шукае ў бурапенным чалавечым жыцці менавіта духоўных радасцяў і спрабуе перадаць іх сучаснікам. Гэта пісьменнікі – Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Аляксей Дудараў, народны мастак–умелец Уладзімір Пузыня, народны артыст Беларусі Валянцін Елізар`еў ды іншыя. Менавіта яны здольныя разбіць скамянелае чалавечае сэрца, скіраваць увагу затлумленага штодзённымі прыземленымі клопатамі пра хлеб надзённы чалавека да горняга, вечнага.

Дарэчы, такой жа здольнасцю валодае і мастак. Нездарма Вольга Іпатава прысвяціла Віктару Барабанцаву радкі, выкарыстаныя мною ў якасці эпіграфа.

Калісьці філосаф Платон вывеў тэорыю, згодна з якою ўсе прадметы і пачуцці на Зямлі – толькі адбіткі тых вечных ідэяў, якія захоўваюцца для чалавецтва як узоры, ад чаго і свет яго ідэй атрымаў назву «платанічных». Насамрэч, душа, якую чалавек забівае ў сабе сам не заўважаючы таго, жорстка помсціць за гвалт. І менавіта літаратура, музыка, выяўленчае мастацтва, а таксама, вядома, і рэлігія тысячагоддзямі не даюць чалавецтву апусціцца да вобразу звера ў сабе, да бездані, за якою сыходжанне ў нябыт.

Аднак з кожным стагоддзем рабіць гэта ўсё цяжэй. Здабыткі цывілізацыі робяцца своеасаблівымі «цацкамі» для людзей, і сёння ўсё меней тых, хто адрываецца ад тэлевізійнай скрыні і ідзе на выставы, каб адчуць жывую энергетыку мастака, яго непаўторнае «поле», альбо, як цяпер гавораць, «аўру».

Аднак карціны Віктара Барабанцава знаходзяць сваіх удзячных гледачоў не толькі ў нашай краіне. Яшчэ ў 1990 годзе ён удзельнічаў у выставе, што адбылася ў штаб-кватэры ААН у ЗША. Яго карціны былі і на выставе ў брусэльскай штаб-кватэры ААН і Еўрапарламенце ў 2000 годзе, а таксама на выставах на грэчаскім Кіпры, у Швецыі і Галандыі.

Сёння гэта ўжо сталы майстар. Далёка ззаду засталіся гады напружанай вучобы ў Мінскім мастацкім вучылішчы і ў Дзяржаўным тэатральна–мастацкім інстытуце, які ён скончыў у 1978 годзе, дзе ягонымі педагогамі былі славутыя беларускія мастакі Гаўрыла Вашчанка і Уладзімір Стальмашонак. Сёння Віктар Барабанцаў сам вучыць маладых у Акадэміі мастацтваў, дае ім перадусім прыклад напружанай штодзённай працы, без якой самы яркі талент у рэшце рэшт згасае і сыходзіць на нішто.

Пэндзаль мастака стаў адметным, у яго – свой стыль, свае фарбы, якія пазнаеш адразу. Яны – лірычна-светлыя, няяркія, як няяркая ў нас прырода, неба, за шэрасіняй абалонкай якога бачацца свае таямніцы. І нават прыглушана–чырвоныя яблыкі на снезе – тыя, беларускія, сакаўныя плады, якія растуць не ў раі, а менавіта на нашай беларускай зямлі. Увага да дэталі не робіць яго карціны рэалістычна–прыземленымі, наадварот – у іх ёсць свой рытм, свая душа, няўлоўная, але адчувальная для тых, хто ўмее доўга ўглядацца ў карціну. Калі ўзяць, напрыклад, дзяўчыну на карціне «Алеся», то пры ўсёй зямной, паўнакроўнай напоўненасці вобраза дэталямі, у ёй ёсць таямніца, ёсць нешта адрачона–нечасавае, бо там, удалечыні – царква і адначасна – карнавальныя шарыкі, нешта несур`ёзнае – і вечнае...

Душа мастака, якая застаецца ў творах, напаўняе сваім святлом тыя куткі зямлі, дзе яны жывуць. Нехта прыйдзе ў царкву вёскі Лебедзева Маладзечанскага раёна (дзе, дарэчы, у час вайны жыў наш славуты зямляк, заслужаны прафесар Мэрылендскага універсітэта Барыс Кіт) і стане перад фрэскамі на сюжэты Святога пісання, нехта будзе доўга ўглядацца ў мазаічнае пано ў саборы Святога Духа ў Беластоку. Але найбольш ягоных твораў у Мінску, дзе ён жыве і працуе. Дом міласэрнасці, храмы нашага гораду штодзённа аддаюць змучаным, часта знявераным людзям часцінку святла, якая сышла ў свет праз мастака – праз ягоныя рукі, талент, які служыць нам усім...

**Юры ТРУБЕЦ**

# Герой Ордэна Белай Мышы

З беларускай літаратуры апошніх гадоў я б вылучыла сучасныя творы пісьменніка Уладзіміра Арлова. Мне вельмі імпануе яго герой, які вандруе не толькі па свеце і часе, але і з аднаго твора ў іншы. Вандруючы па розных месцах, ён, як заўсёды, праяўляе цікаўнасць, назіральнасць, дэманструе інтэлектуальнасць, крытычнасць. Але галоўнае, яго думкі прасякнутыя вострай любоўю да Радзімы – любімых гарадоў, святыняў і, зразумела, людзей.

І куды б не закінуў героя лёс, у Магілёў («Два дні ў нязддзейсненай сталіцы»), прыбалтыйскія краіны («Краіна без будучыні», «Адкусі галаву вароне», «Уік энд у Коўне» і інш.), экзатычныя мясціны («Ці бываюць чарвівыя мандарыны»), паўсюль ён вышуквае сувязь з Беларуссю: тэкст насычаны звязанымі з радзімай асацыяцыямі, успамінамі, апісаннямі выпадковых і невыпадковых сустрэч...

Літаратура Арлова насамрэч сучасная і надзвычай актуальная. Яна адпавядае патрабаванням мадэрнізаванага грамадства: вельмі захапляльная і дынамічная (чытаеш на адным дыханні), лаканічная (любы твор можна прачытаць за адзін вечар), прасякнутая гумарам з элементамі сарказму (герой высмейвае падмечаныя ў людзях і сітуацыях недарэчнасць і глупства), і праз усё вышэйпералічанае – глыбокасць (ён бачыць самае істотнае, пільна назірае за станам нашага грамадства і агульначалавечым кантэкстам).

У кожным творы прысутнічае вобраз «дамы сэрца», які непазбежна ўплывае на паводзіны героя. Гэта можа быць ледзь адчувальны пах ментолавых цыгарэтаў незнаёмкі («Краявід з ментолавым пахам»), сустрэчы з рэальнаю жанчынаю («Genius loci») ці ўзгадкі пра падлеткавыя захапленні – заўжды жанчына будзе своеасаблівым ініцыятарам і каталізатарам палітры перажыванняў героя. Пісьменнік дзеліцца з чытачом цікавым назіраннем: «Кнігі, як і дзеці, нараджаюцца ў пісьменнікаў ад жанчын» («Ордэн Белай Мышы»)...

Часам можа падацца, што аўтар зліваецца з сваім літаратурным двайніком, але гэта не зусім так. Падаючы свае ўласныя думкі і перажыванні, аўтар, тым не менш, адасабляе сябе ад свайго героя праз распавед ад імя другой асобы («ты ўзгадваеш», «ты адчуваеш»), і праз гэта як бы адбываецца спалучэнне аўтара, героя і чытача. Жыццё героя яго твораў адкрытае для пранікнення вока чытача. Герой можа падзяліцца з чытачом нават пікантнымі падрабязнасцямі з юнацтва і сталасці («Малекула», «Сібірская аповесць» і інш.), крыху прыпадняць заслону, каб чытач мог падглядзець тую ці іншую сцэну з інтымнага жыцця.

Цікава, што герой перманентна пераходзіць з адной кнігі ў другую. Наступны твор толькі дамалёўвае створаны ў папярэднім вобраз. Застаецца недасказанасць у тым, што, інтрыгуючы чытача, аўтар ніколі да канца не прызнаецца, што ў расказаным праўда, а што – недасказаная яе частка... Мяжа паміж рэальным і прыдуманым захапляльна пластычная; прыдуманае настолькі натуральна, што часам яно з'яўляецца нашмат праўдзівейшым за рэальнасць.

**Вольга ЦЯЦЁРКІНА**

# Старажытная музыка балотных назваў

**Раіса Аўчыннікава**



Калі позняй восенню над маёй хатай ляцяць сваім генетычным накірункам на захад гусіныя трохвугольнікі, я звычайна аўтаматычна паўтараю словы з дзіцячай казкі «Лапландзія, Лапландзія - гусіная краіна». Але аднойчы я зразумела сэнс гэтай назвы. Лапландзія - гэта «балотная зямля», бо такую ж аснову **ЛАП**- я сустракала ў беларускай гідраніміі і яна была мне зразумелай. На Беларусі некалькі назваў балот маюць гэты ж элемент: **Лапунь** у Баранавіцкім, **Лапка** ў Карэліцкім раёне, **Лапеніца** пад Барысавам. Радня гэтых тапонімаў у фіна-угорскіх мовах. Нагадаем венгерскае **ЛАПА** «балота», горна-марыйскае **ЛАПАТА, ЛАПІТА**– «нізіна».

Назвы балот часта пераходзілі на суседнія паселішчы, або азёры. Так утварыліся назвы балота і вёскі **Лапухова** на Слонімшчыне, возера **Лапушынскага** на Расоншчыне. Возера **Лапухі** ў Міёрскім раёне знаходзіцца на тэрыторыі балотнага заказніка Ельня, што вельмі доказна для этымалогіі. А возера **Лапухова** на Пастаўшчыне ляжыць сярод балота, парослага хмызняком. Побач з ім вёска пад сімвалічнай назвай Кадукі. Кадук - гэта галоўны міфалагічны балотны дух у вераваннях беларусаў. Яго імя паходзіць ад старажытнага азначэння балота, падобныя захаваліся ў мове комі і ўдмуртаў, дзе **КАД, КУД** - «топкае месца, дрыгва, балота».

Ад гэтага тэрміна ўтворана назва балота **Кадзьбішча** на Лепельшчыне, у Гродзенскай вобласці балоты **Кудзьба** і **Дакудаўскае**. На Ушаччыне знайшлася гэтая ж аснова, але ўжо ў назве возера **Веркуда**. У нашых суседзяў літоўцаў і латышоў існуе таксама падобны геаграфічны тэрмін **КУДРА** - «тарфяное балотца, або невялікае азярцо».

Невялікае балота ля Халопеніч носіць, здаецца, зразумелую славянскаму вуху назву **Начка**. Адсюль жа пачынаецца і рэчка Начка, прыток Бабра. Але, аказваецца, слова **НАЧКА** зусім не славянскае, на мове мардвы яно азначае «балотная». Значыць, балотнай рэчкай Начку назвалі яшчэ старажытныя даславянскія насельнікі нашага краю. Аказалася, што на тэрыторыі Беларусі яшчэ чатыры ракі называюцца аналагічна. А ўжо ад назваў рэк і некалькі вёсак называюцца **Нача**.

У Слоўніку Каралеўства Польскага ў Лідскім павеце апісана рэчка **Начка**, верхавіна рэчкі Котры. Дзякуючы этымалогіі зразумела апісанне гэтай ракі ў слоўніку - «бярэ пачатак у багнах і плыве мокрай далінай». Трэцяя рэчка Начка (варыянты **Нача, Паначка**) у Воранаўскім раёне, гэта прыток Дзітвы. Чацвёртая Начка (Нача) - левы прыток Заходняй Дзвіны ў Полацкім раёне, мае выток з возера Арэхоўна. Яшчэ адна Нача (гістарычны варыянт **Нач**) пачынаецца на тэрыторыі Барысаўскага раёна ля вёскі Падбярэззе, далей рака цячэ ў Беразіну. Па нізіне Прыпяцкага Палесся плыве рэчка Нача (Нач), прыток Лані. Знаёмую аснову лёгка адгадаць у назвах азёр **Нячвор** у басейне Палаты і **Начоўкі** ў басейне Нішчы. Апошняе знаходзіцца сярод лесу і мае моцна забалочаную пойму. За межамі рэспублікі роднасныя назвы ракі Начы, прытока Обшы ў вярхоўях Заходняй Дзвіны, і Начвы, прытока Ловаці.

Канешне, гэтыя назвы не маюць нічога агульнага са славянскімі апелятывамі НОЧ, або ПАЧАТАК (НАЧАЛО). Славянізацыя незнаёмых каранёў, атаясамленне са знаёмымі словамі дазволілі выжыць старажытным асновам сярод славянскіх слоў. І дзякуючы гэтаму яны яшчэ доўга захаваюцца ў нашай мове.

Вось возьмем, напрыклад, назву балота Брухавіца. Быццам бы аснова БРУХА (жывот) зразумелая, а між тым **БРУХ** азначае таксама «балота», прэцызна паўтараючы нямецкае BRUCH у тым жа значэнні. Роднасныя назвы беларускіх балот **Брак** і **Падбрачча**. Мала хто ведае, што і вытокі Дуная ў Германіі таксама называюцца Брак (Прак). А у нас на Віцебшчыне цячэ рэчка Пракса, далёкая радня Дуная.

Цікавая назва балота **Морш** у Быхаўскім раёне, роднасныя яму назвы ўкраінскага курорта Моршын, горада Маршанска ў Расіі і вядомых галандскіх МАРШАЎ, балоцістых зямель, адваяваных у мора. У нямецкай мове MARSCH азначае менавіта «балота».

Невялікая рэчка **Мір**, альбо **Міранка** дала імя славутаму Мірскаму замку. Англічаніну назву рэчкі перакладаць не трэба, бо па-англійску **MIRE** і ёсць «балота, топкае месца». Роднасная назва і ў рэчкі **Мерыцы**, на якой знаходзіцца горад **Міёры**, ракі **Мерэі**, прытока Дняпра, возера **Мерэдзеж** ў басейне Заходняй Дзвіны. Розныя вакальнасці ў назвах рэчкі **Морачы**, прытока Случы, балот **Марочна**, Мерачанскага і Огдземер на Брэстчыне. Каля 30 назваў балот Беларусі маюць ясны балотны элемент МАР-/МОР-, сярод іх назвы **Маранка, Маркотка, Маргаль, Мароцкае, Марынец, Мар'еха, Марысіна, Мормаль**. Часта такія назвы падробліваліся пад знаёмыя словы, адсюль у назвах балот і водных аб'ектаў гэтага тыпу сустракаюцца імёны Маркаў, Марысек, Мар'янаў, Мартынаў, Марфаў, нават Міронаў.

Больш малады элемент **НАР**- таксама даволі прадуктыўны ў назвах балот і водных аб'ектаў Беларусі. Адсюль назвы балот **Нары Рог** у Асіповіцкім раёне, **Нарылінскі Мох** у Віцебскім, рэк **Нараў, Нараўка, Нараўлянка**, возера **Саванар** і **Дахнарскага** ў басейне Заходняй Дзвіны, ну і, канешне, славутага беларускага возера **Нарач**. Як ні дзіўна, але этымалогія назвы Нарач даволі простая – «возера, балотнае возера». З возера выцякае рэчка **Нарачанка**, прыток Віліі, сапраўды балотная рэчачка. Назва возера амаль поўнасцю паўтараецца непадалёку ад межаў Беларусі на Пскоўшчыне, дзе знаходзіцца возера Нарычно, а з яго мае выток рэчка Нарычанка. Вёска на беразе возера таксама называецца Нарычно. У вярхоўях Заходняй Дзвіны ёсць і возера **Нерэто**.

Значэнне кораня **НАР-/НЕР**- таксама зразумелае. Параўнаем сібірскі тэрмін **МАРЬ** – «балота, качкарнік, бугрыстае месца», эвенкійскае **МАР** – «балота, ернік, парослы нізкарослай бярозай», мансійскае **НЯР**, комі і ўдмурцкае **НЮР** – «балота», хантыйскае **НАРЫМ** «балоцістае месца, тундра», тое самае нанайскае **НЯРУ, НЯРОН**. Цікава, што адно балота пад Коханавічамі называецца вельмі падобна - **Няронкі**. А вось у літоўскай мове НАР азначае «паток».

Чатыры назвы беларускіх балот маюць рэдкі элемент **ПЕН**-. Арэал гэтых назваў на паўднёвым усходзе РБ. У яго ўваходзяць балоты **Пенны Мох** і **Зацішша Пеннае** ў Рагачоўскім раёне, **Пеніча** і **Пенніца** ў раёне Калінкавічы-Мазыр. Сюды ж уключым назву рэчкі **Пентрыцы**, правага прытоку Беразіны. Магчыма, нават назва ракі **Піны** з гэтай жа оперы. Роднасныя гэтым назвам тапонімы на тэрыторыі РФ адзначаны далёка на поўнач ад нашых тэрыторый. У Прыанежжы - Валасны Пенус, возера і горад Пена ў Калінінскай вобласці. Гэтыя назвы можна звязаць з паўночнарускім ПЕНУС «балота з травяністым покрывам, парослае карлікавай бярозкай», карэльскім ПАЙНОШ «балота паміж узгоркамі», саамскім ПУОН «балота, дрыгва». Улічваючы чаргаванне гукаў **П** і **В** у гідраніміі Беларусі можна да гэтага арэала дадаць назвы з элементам **В()Н**-, сярод іх назвы ракі **Вінец**, прытока Ясельды, ракі **Вянужкі**, азёр **Вянок, Разван** у басейне Заходняй Дзвіны, балота **Вінкераў Мох** у Петрыкаўскім раёне.

Метатэза элемента **В()Н**- дае нам варыянты **Н()В**- у назвах балот **Невневіцкае, Невіца, Невгалле, Невка, Нявольніца, Нявольнае, Нявелічы**, а таксама **Навік, Навызскае, Новін Мох**. У беларускай гідраніміі гэта назвы азёр **Інава, Набіста**, сюды ж назва вёскі Нобель на Палессі. Тэрмін НЕВО добра вядомы на рускай поўначы, паходзіць ён з фінскай мовы, дзе азначае тып махавога балота.

Балотны элемент **НАХ-/НЕГ**- адзначаны ў назвах балот **Негалева, Негінскага, Неглюбскага** (адсюль і назва вядомай вёскі Неглюбкі), а таксама балот **Нахаватае, Новы Нахаў**. На поўначы Беларусі дзве рэчкі і возера носяць імя **Янка**. Але гэта той жа тэрмін у значэнні «балота». Параўнаем фінскае **ЯНКА**, мансійскае **ЯНГ, ЯНК**, карэльскае **ЯНГА** – «махавое балота, або балота, парослае невялікім сасновым лесам».

Прыведзены тапанімічны закон метатэзы (перастаноўкі карэнных зычных гукаў) дазваляе вырашаць многія загадкі беларускай тапаніміі. Напрыклад, прыведзены балотны элемент **КУД**- дае метатэзу **ДУК**-. Адсюль назвы балота **Дукорскага** і рэчкі **Дукоркі**, прытока Свіслачы, балот **Дукінскага** на Пастаўшчыне і **Дуколава** на Гомельшчыне.

Метатэза ЛАПландскай асновы не выклікае ніякіх спрэчак, гэта вядомы корань **ПАЛ**-, ад яго і наш тэрмін **БАЛОТА** паходзіць. **БАЛ-=ЛАБ, БЕЛ=ЛЕБ**. Назва возера і балота Лебестаў зусім не падаецца таямнічай пасля прымянення гэтых формул. Ну а тэрмін **БЕЛЬ** звычайны ў Беларусі. Так звычайна называюцца бязлесныя махавыя балоты.

Альбо такі возьмем вядомы балотны элемент, як **МОС**, ён роўны **СОМ**. Значэнне элемента МОС - «мох», тое самае MOSS на англійскай мове. І латышскае **SAMANYNAS** - таксама «махавое балота». У прыбалтыйска-фінскіх мовах **СУОННЭ, ШУАН, ШЭН** – «балота, невялікі забалочаны луг у лесе». У польскай мове аснова **СОМ** таксама азначае «балота».

У тапанімічны ланцужок з гэтым элементам уключым назвы балот **Самадумаўскі Мох, Самарынскі Мох, Самарынец, Саморынскае, Семіра, Самасадскі Мох, Самсонава Шыя, Саманіцы, Семюны, Сангоўскае, Саніта, Шаніцкі Мох**, азёр **Асмато, Сомінскае, Смалвас, Смержаў, Снуды**, рэк **Смуга, Смолка, Смоўсць, Смуга, Смычыца, Сноў** і іншых.

У Мінску ўсім вядома назва раёна Масюкоўшчына, але тое, што яна ўтворана ад назвы колішняга балота **Масюкоўскага**, мала хто ведае. А ў Шклоўскім раёне балота так і завецца **Маскоўшчына**, ёсць таксама назвы балот **Маскоўка, Маскавішча, Масушын Мох**. На Браслаўшчыне на беразе возера Дрывяты назва вёскі **Маскавічы** таксама ўтворана ад гэтага тэрміна. Сярод назваў беларускіх рэк – **Маска, Маскоўка**, возера і вёска **Мосар** на Віцебшчыне. У гэтым ж радзе і назва беларускага горада **Мозыра**, дзе разглядаемы элемент МОС- азвончаны больш познім славянскім насельніцтвам у МОЗ (МАЗ). Канечны элемент -Р аднолькавы для гідронімаў тыпу Мосар-Мозыр і паходзіць ад апелятыва ў значэнні «возера».

Улічыўшы заканамернае чаргаванне ў беларускай гідраніміі гука С і Т, прамежкавасць гука Л аказалася магчымым уключыць у гэты ж арэал назвы з элементамі **МОЛ-/МОТ**-. Сярод іх назвы рэк і азёр **Малатоўка, Малітвіна, Малочнае, Малахоўка, Моліно, Молінка**, канал **Матыкальскі, Мотальскае, Мотва, Моцяж**, з іншай вакальнасцю **Міліцына, Мілашы, Мілуша** ды іншыя

Чаргаванне гукаў **М** і **Н** дае магчымасць параўнаць роднасныя асновы **МАЛ**- і **НАЛ**-. У арэале НАЛ- назвы азёр **Налля** (частка Лісна), **Налюцік, Нюля**, балота і рэчкі **Налібаўка, Налібоцкай пушчы**. У мове вепсаў НОВА, НОЛЯ «дрыгва, топкае месца». З другога боку назвы рэк **Ала, Лань, Лонна, Лынтупка**, балот **Альянас, Лань, Ланскае, Лонніца**. Значэнне карэнных элементаў тыпу ЛАН-/ЛОН- устанаўліваецца пры параўнанні іх з фінскім АЛА, **АЛАНКО**, эстонскім і вепскім **АЛАНГ** – «нізіна». Літоўскае **ЛАНКА** - «луг, нізменная даліна, вялікая лужына».

Зробім яшчэ адно вельмі простае дзеянне для цяпер зразумелай асновы **ХОМ**, азвончым першы элемент, атрымаем **ГОМ**. Вось так проста ўзнікла назва возера **Гомель** на Віцебшчыне і ручая **Гоміюк**, прадцечы назвы горада Гомеля. Побач з возерам Гомель у басейне Тураўлянкі азёры **Суя** і **Усомля**. Пра аснову **СОМ**- ужо ішла гаворка. А назва Суя ўтворана таксама ад тэрміна ў значэнні «балота», паходжанне яго з фінскіх моў, параўнай таксама назвы беларускіх балот **Суймі** ў Крупскім раёне і **Койміна** на Бабруйшчыне.

У Беларусі і цяпер каля сямі тысяч балот, раней іх было намнога болей. За некалькі дзесяткаў тысяч год мясцовае насельніцтва змянялася, мяняліся мовы, але пераемнасць іх усё-такі заставалася. Хаця сэнс старажытных абазначэнняў балот з цягам часу губляўся, яны ператвараліся проста ў імёны гэтых аб'ектаў. Гэтыя гукі можна слухаць як цудоўную старажытную музыку, як пасланне нам нашых далёкіх продкаў.

Васіль ЯКАВЕНКА



# Жменька промняў на кратах, або Прымхі асенняй начы

Эвой! Я памёр, і сніліся мне незвычайныя і дзіўныя рэчы: блакітнае неба перавярнулася, а дакладней, сама зямля заняла месца неба, змяшалася з ім, і пад нагамі цялёпкалася штосьці няпэўнае, бруднае, у чым людзі і так і гэтак боўталіся, бы апалонікі.

Я не хацеў паміраць, дый, напэўна, чарга яшчэ пакуль не дастала.

Тым не менш, адышоў... Я варушыўся разам з іншымі, прычым не меў ні каліва пэўнасці, што здарылася. Час ад часу спрабаваў уявіць сабе паслядоўнасць падзей, толькі памяць мая недзе плавала, мяркую, за гэтай патарочай, за гэтай бруднай навалаччу. Хтось пацягнуў мяне за рукаў:

– А братка Міхась, я цябе даўно тут шукаю! Пойдзем...

Я маўчаў.

– Пойдзем, пабачыш, дзе сыходзяцца, рушацца і ламаюцца ў друз жыццядайныя асновы. Ого, эпахальная, так бы мовіць, спектакля!

Я нічога не разумеў, але памятаў, што д'ябал, калі каму надорыцца сустрэцца з ім, можа самым пэўным дабрадзеем прыкінуцца. На гэтым разе ён цвяліць, ламаючы словы: «спектакля...»

Я перапытаў:

– Трагікамедыя?

– Так. У нацыянальным судзілішчы...

– То суд – не Боскі, не-е? - я быў амаль расчараваны.

– Куды там! Памятаеш, дзе мы з табой свой гонар ад шэльмы Друца баранілі?

– Авохці мне!

І я, нарэшце, уцяміў, што поплеч са мной блазнуе не д'ябал, прабач Госпадзі, а Лявон Аўдзяк, мой блізкі прыяцель, ён таксама любіў пацвяліць, і мне тут жа прыгадаўся прафесар Друц, які сцвярджаў неаднойчы, што няма ліха ад апраменьвання, наадварот, радыяцыя спрыяе здароўю, і таму, маўляў, не варта было перасяляць людскую талаку з чарнобыльскае зоны.

Прылюдна мы абазвалі Яўгена Друца ашуканцам, нават больш, і тады за абразу гонару прафесар судзіўся, чым нямала павярэдзіў нам душы. Але той час мінуў...

Не ведаю, як і па чым арыентаваўся ў ліхой каламуці Аўдзяк, толькі мы з ім рушылі і патрапілі немавед куды. Праз колькі крокаў, праўда, узграбліся на цвёрдае, нібы на зямлю. Напэўна...

– Лёня, – наважыўся я спытаць, – а ты таксама нябожчык або яшчэ жывы і дагэтуль працуеш?

Ён спыніўся і паглядзеў на мяне так, быццам з маіх вуснаў зляцела нейкая непрыстойнасць або лухта непрасеяная; вытрымаў паўзу і патлумачыў:

– Я быў жывы... Так, я, Аўдзяк, быў жывы і дзейны, калі працаваў у гарадской паліклініцы і вызначаў захворванні, выкліканыя радыяцыяй, за што мяне і звольнілі. А цяпер я - тое, што ў нейкай там вытворчасці называецца паўфабрыкатам, – ні жывы, ні мёртвы.

З ягоных слоў я неяк мала чаго зразумеў.

У гэты момант замглёную і злавесную, як здавалася мне, прастору (неба ж па-ранейшаму было змешана з граззю) напоўнілі гукі сурмы, прызыўныя, пругкія, бадай, урачыстыя. Мы пайшлі на той дзіўны покліч і неўзабаве ўбачылі на пагорку музку - жвавага, дармо што старога, у белай кашулі, упрыгожанай кідкім арнаментам. Наогул ён падаваўся мне знаёмым, як і многія з ценяў, якія бавіліся тут, але толькі ж нікога з іх асабіста я не мог прыгадаць.

Музыка скончыў агалошваць прастору, а рабіў ён гэта з нагоды ўрачыстага адкрыцця навучальнага года. Ліцэісты выцягнуліся шнурком на тратуары ўздоўж вуліцы, перад высокім мурам. Па нейкіх архітэктурных формах і купах магнолій я здагадваўся, што патрапілі мы ў даволі аддаленыя часы Спарты або Элады. На юных спартанцах, а менавіта гэтак яны мною ўспрымаліся, былі форменныя белыя кашулі з нашытымі пунсовымі сардэчкамі, якія сведчылі, няйначай, пра шчырую і сардэчную атмасферу навучання ў сценах ліцэя.

Каб бачыць больш і бачыць шырэй, мы з Аўдзяком узграбліся на ўтравелы пагорак бліжэй да сурмача-музыкі. Там стаяў таксама і дырэктар ліцэя, сярэдняга веку, ладны паставай чалавек.

Дырэктар нетаропка, годна і яскрава гаварыў пра поспехі, дасягнутыя навучэнцамі, - усе яны дагэтуль паказальна вытрымлівалі іспыты пры паступленні ў Акадэмію краіны і іншыя слаўныя вучэльні. Дырэктар сказаў і пра новы навучальны год, што пачынаўся пад гэтым небам, мутна затканым хмарамі.

На ўдачу нам тое ці надварот, варажыў, але мы цяпер будзем вучыцца не ў аўдыторыях, не ў сценах будынка, каля якога праводзім лінейку і які стаў для нас родным. Высокія сцены ліцэя будуць разбураны, і на іх месцы паўстане лядовы палац. Такі загад Набіса, пакравіцеля спартыўных гульняў, які забараніў дзецям нават чытаць кнігі – каб да ўсяго даходзілі сваім розумам - і адмяніў абавязковае атычнае навучанне ў школах. Таму далей мы будзем праводзіць заняткі на вуліцы, на свежым паветры ды ў лясных дубровах, як вучыліся яшчэ даўней нашы юныя грэкі. Мегатон ктыма эсці то тон фізіён пэдэс традука мафіма. Найвялікшае, што прыносіць нам плён, ёсць вывучэнне ступы прыроды. Гэтак мы лепей падрыхтуемся для барацьбы з гэтай навалай, кіўнуў угару.

Усе слухалі яго, затаіўшы дыханне...

Але неўзабаве дырэктар перадаў слова настаўніку, якога назваў прафесарам Анахарсісам. У спрактыкаванага рытара Анахарсіса на плячах ляжала панашаная скіфская хлена. Эўрыка! Я знайшоў! – усклікнуў спадар Анахарсіс, нагадваючы Платона: – Дыдаскалія акадэмія парыпатыка. Школа – акадэмія на нагах. І ён працягваў... Прыкметы дураты і глупства, як і прыкметы розуму, у варвараў і грэкаў аднолькавыя. Ні адзін разумны правіцель не забівае сваіх падначаленых, а добры пастух ніколі не чыніць здзеку з авечак. Наша краіна тым часам страціла безліч разумных і мудрых галоў. Яна дрэнна ўпраўляецца. Амаль кожны дом даведзены да такога бядачага стану, што не можа быць карысным ніякаму цару, нават калі цар - тыран. Навука і культура дратуюцца. У заняпадзе рамёствы. Бядоцце можна параўнаць хіба з нашэсцем Мамая. За падобным насланнём, за нечывелі, як мовяць на Рубоне ліцвіны, лёгка і ў агонь кінуцца. Але ж у нашай прафесуры, скажу шчыра, не з мякіны галовы, і мы разам з вамі, юнымі патрыётамі ліцэя, вытрымаем няласку і варожасць. Толькі памятайце, што ваша сіла і вашая зброя – гэта веды. І яшчэ раз – веды! Спудэі – антропас софія, ке пэры архон то он логас. Вучні - людзі разумныя, таму што спазналі слова, і мы абавязкова перможам. Розум павінен перамагчы невуцтва, годнасць – нахабства, а сумленне - подласць. Не выпадкова ж за асноўную навуку ў нас узята антысфенаўская – але ж; яна вучыць не прэтэндаваць на раскошу і пры гэтым адвыкаць ад усялякіх заганаў. Таму вышэй галовы! І няхай вас, шаноўныя, не палохаюць ліхія нягоды...

– Іх абрабавалі, – амаль на вуха мне патлумачыў Лявон Аўдзяк, які пэўны час сноўдаў недзе ў натоўпе, а цяпер вярнуўся: – Тыя ж нягоднікі, якія абрабавалі пісьменнікаў і падкрадваюцца да мастакоў, каб забраць іхнюю маёмасць. Аднак як выкінуць з экаполіса гэтыя светлыя і нявінныя душы? – Аўдзяк паказаў на лінейку: – Навошта іх абяздольваць? Бачыш, у капкан да Набіса трапіў высокі мур. Яго разбураць. Вунь ён, маўклівы стаіць. Металічны ажур варот цяпер ператварыўся ў краты. У палон забрана унікальная бібліятэка.

У голасе Леаніда, які рэдка каму спачуваў, мне пачулася бянтэжлівасць і скруха – тая скруха, якая ўсталёўваецца зазвычай у доме нябожчыка.

Я не вытрымаў няпэўнасці, бо карцела даведацца, як і пры якіх акалічнасцях усё гэта здарылася.

– Лявон! – мой голас прасіў аб ласцы: – Ці можаш ты мне растлумачыць, дзе, у якой краіне мы з табой высунуліся на зямлю.

– Дзівак, – адказаў мой прыяцель, – не пазнаеш... А, зрэшты, і сапраўды стала цяжка арыентавацца ў прасторы і часе. Тым не менш, я мяркую, што мы недзе ў памежжы сваёй краіны і Спарты, акурат за царом Набісам.

– Пад ягоным пратэктаратам. Але тут, чую, пераважае не атычная, а наша мова...

І, як бы ў пацвярджэнне ягоных слоў, у тым дзівосным і скрушлівым спектаклі загучаў гімн ліцэістаў, і гучаў ён, звінеў, калаціўся ў прасторы ў паўтары сотні галасоў, высока, напеўна. У ім услаўляўся дух свабоды і творчасці.

*Пашанотны наш Ліцэй, мы цябе*
*ўслаўляем,*
*Пашанотны наш Ліцэй, мы цябе*
*ўслаўляем.*
*Дух любові і свабоды хай лунае тут*
*заўсёды.*
*І над нашым краем, і над нашым краем.*

– Вось! – прыглушана выгукнуў Аўдзяк на шматлікую гурму, што ўтварылася як з прыхільнікаў гэтай вучэльні, так і бацькоў ліцэістаў. – Вось за што рэквізавалі харомы. Адсюль дыхнула свабодай, і гэту свабоду дакляруюць перанесці на дзяржаву, дзе лунае дух Набіса. Падмуркі краіны і ліцэя атаясамліваюцца... А ці магчыма такое? Ліцэісты бачаць у дзяржаве свой дом, а навошта?.. Ніхто ім у рабаўніцкай візіі не даваў на тое дазволу. Карацей, педагогі і выхаванцы перавысілі свае паўнамоцтвы. Акаянныя!.. Да сваёй краіны, да крыжоў незапамятных яны празмернаю прыхільнасцю дыхаюць! Марна...

– Нядоля цягне ў іншы бок ад крыжоў, і, я бачу, спадар Аўдзяк усё разумее. Ці ж не так?

– Прымаю за камплімент. Дзякуй...

У бліжэйшай прасторы тым часам доўжылася ўрачыстасць і гучала ўпарціста, вольна:

*Дыхаюць твае муры велічна і годна,*
*Дыхаюць твае муры велічна і годна.*
*Хай жа волаты ў Ліцэі падрастаюць*
*і сталеюць*
*Для краіны роднай, для краіны роднай.*

Далей маё сэрца ажно замірала ў сне. Ад урачыстага наплыву.

З утрапеннем, якое не памятаю, калі і было, я слухаў клятву ліцэістаў быць вартымі таго, чаму вучылі настаўнікі, быць годнымі вучнямі сваіх прафесараў. Дзеля шчасця ды славы Айчыны! Той Айчыны, якая, нябось, уяўлялася ім выбудаванай на сваім спрадвечным падмурку. І – без цэню Набіса.

Хацеў таго хто ці не, але ж неба над ліцэем праяснілася і ўжо быў прыкметным блакіт. Праясняліся мае думкі. Сонца кінула жменю промняў на сцены мура, і на варотах-кратах, на вокнах першага паверха, забраных кратамі, радасна засвяціліся, заззялі рознымі вабнымі краскамі букеты кветак, прынесеных сюды ліцэістамі і іх прыхільнікамі, апекунамі. Кветкі, няйначай, былі ўжо развітальнымі. А неўзабаве ўся-ўся высокая мураваная сцяна запалымнела, засвяцілася краскамі. Магнолії зніклі.

Момант, і зазвінелі школьныя званкі. Дзесяткі зычных вясёлых званочкаў! Ліцэісты з лінейкі арганізавана прайшлі па вуліцы, перасеклі яе па пярэстых ходніках, падняліся на ўмаяваную прысадамі як не антычную гару ўзбоч стадыёна, дзе з бацькоўскай дапамогай пачалі расстаўляць загадзя збітыя з дошак лавачкі, непафарбаваныя, свежыя, новыя, групавалі іх для кожнага класа асобна.

Пачаліся заняткі, прадугледжаныя неардынарнай праграмай навучання, заняткі самыя-самыя першыя, на якіх мы з прыяцелем былі ўжо лішнія.

Аўдзяк вёў мяне далей па вуліцах горада, але толькі я не заўважаў, якія гэта вуліцы і як доўга мы ідзем. У мяне перад вачыма ўсё яшчэ стаялі карціны ліцэя і ліцэістаў, гучала ў вушах пачутае там.

– Лёня, ты жыў калі-небудзь у вёсцы?

– Не-е, толькі ў горадзе. Праўда, мой горад нагадваў вялізную вёску.

– І суседзі былі?

– А як жа? Сядзібы стаялі помеж. Але...

– Што б ты сказаў, калі б твой сусед, той ці іншы, нападпітку ці як, пачаў перацягваць дом Аўдзяка на свой агарод, парослы быльнягом... Зразумела? Не-е?.. Тады скажам інакш і, можа, больш яскрава: сусед падводзіць свой збуцвелы падмурак пад твой дом?

– Дзеля чаго?..

– Дзеля славянскага адзінства...

– А-ах, ха-ха-ха! – смехам запоўніў прастору вуліцы мой прыяцель.

У нейкім малапрыкметным завулку нам сустрэўся галасісты натоўп жанчын. Постаці большасці з іх былі аздоблены тунікамі.

Кабеты абступілі шапік, які патанаў у зяленіве пры тратуары, стаптаным, сцёртым падэшвамі ног. У шапіку, а належаў ён фірме «ВІТАЛІР», колькі год прадавалі рыбу – свежамарожаную, селядцы і ўсялякую іншую. З гаманы той мы зразумелі, што жанкі – кліенткі гэтага латка.

Фірма «ВІТАЛІР» мусіла эвакуіравацца з горада, і адзін з яе шапікаў – менавіта гэты – цяпер здымалі з невысокага муру. Мужыкі падцялі дамок трасамі спадыспаду, і аўтакран узняў яго, бы белы ветразь, у паветра, каб, развярнуўшы, паставіць на платформу аўтамашыны.

– У-у-у-у...

– Угу-у-у...

– Няхай там ім лёгка дыхаецца!

– Што ж ты, мілая, чаўпеш?

– А бадай яны падохлі!..

Працяг на стар. 8

# Жменька промняў на кратах

Працяг. Пачатак на стар. 7

– Паважаная фірма «ВІТАЛІР» прадавала ў горадзе рыбу танней, чым у дзяржгандлі. Розніца складала, прыкладна, адну тысячу на кіло і больш. Добра гэта ці дрэнна? – пытаўся ў мяне Аўдзяк, які, як заўжды, усё пра ўсё ведаў. – За тое, – працягваў, – на фірму і зрабілі наезд. Улады... Падаткі з прыбытку фірма спраўна плаціла, ды, можа, не ўмела дабром дзяліцца з кім-небудзь. Хто ведае...

– Сапраўды, хто скажа... Часам і Бог не ўсё ведае, не ўсё бачыць. Даруй...

– Рабочых месцаў пазбавяцца людзі...

Мяне ж уразілі радасныя ўсмешкі і воклічы высахлых, як вобла, пакупніц:

– Гіцлі, байбукі! Замест таго, каб самім рыбу пладзіць, яны прывозяць яе невядома з якога эўрабоку!

– Нам іхняя рыба і ў вялікі пост не спатрэбіцца! Не ідэалагічны гэта прадукт, га, бабы?

– Бабы!.. А шкада... Шкада дый радасна: наш горад прадзьмуць скразнякі і не будзе тхлані рыбнай!

– Нам да голаду не прывыкаць, – гнятліва мовіла прыгорбленая старая з высахлым тварам, яе выцягнутыя рукі дрыжэлі, яна прасіла міластыню.

Я нічога не разумеў з бадзёрага рэю жанчын. Чаму замест абурэння, пратэсту, як што знікаў найбольш танны для іх рынак прадуктаў, яны радаваліся.

– А ты, браце, адстаў ад жыцця. На гэтай зямлі пад вянец падведзена набісава ідэалогія, яна названа пануючай. Цяпер ніхто не можа абурацца на дзеянні ўлад, а можа толькі ўхваляць іх і радавацца, гучна пляскаць у ладкі. У гэтым увесь сэнс пануючай, якая навязана люду, і як толькі хто незадаволена скрывіць рот, у яго мігам сківіцы звядзе.

Ад нечага мяне скалынула. Куды падацца душой? Пастка?.. І ад таго пучка промняў, што было ўпаў на ліцэйскі мур, ужо і напаміну не заставалася. Небасхіл зямлі – так-так, нашай ад краю да краю калісь сонечнай і шчодрай зямлі - быў пакрыты каламутнай шэранню, пагрозлівай, бяскрайняй.

– Не сумуй, – падбадзёрваў Аўдзяк, доктар буйных парыванняў ды свежых, няўрымслівых думак. – Неўзабаве ж на Льва паглядзіш... у клетцы!

Судовая зала, куды мы патрапілі, выдавала прасторнай, хоць і перагароджвалася дзвюма дашчатымі зборкамі. З аднаго боку – магутны стол суддзі. Над ім вісеў герб Спарты. Сярэдзіну ўзбоч займала клетка з жалезных прутоў, пры ёй – сталы адвакатаў, насупраць – абвінаваўцаў-пракурораў. Па другі бок ад сярэдзіны – лавачкі са спінкамі для нас, слухачоў, назіральнікаў, сведкаў, – лавачкі, уласна, як і ўсе драўляныя зборкі, былі габляваныя, пакрытыя лакам, а столь высокая, пэўна яшчэ дахрушчоўскай эпохі.

У жалезнай клетцы тупаў – колькі крокаў туды-сюды – і пільна ўглядваўся ў твары прышлага люду ладны ростам і ўвогуле станісты чалавек у хітоне, упаўне інтэлігентнага выгляду, толькі твар ягоны, амаль кебічаўскай вылепкі, асабліва калі той быў маладзейшым, выяўляў шмат энергіі, няскоранага духу, урэшце, мужнасці. Клетку з вязнем ахоўваў нарад паліцыі з чатырох чалавек, уключаючы сяржанта, які пачуваў сябе тут начальнікам, – мяняў паставых каля дзвярэй клеткі і ў прамежкі між гэтым занятакам, адкінуўшыся на спінку лаўкі, спакойна і думна жаваў нейкую заморскую жуйку.

Пасля афіцыйнай цырымоніі з адкрыццём чарговага пасяджэння, калі ўсе і ўсё, што дыхала тут, пры ўваходзе суддзі і народных засядацеляў прыняло вертыкальнае становішча, пасля гэтакага вітання і выпрунджвання ў струнку пачалося амаль рытуальнае пералістванне і агалошванне суддзёй 150-томнага збору твораў следства. Дакументы фіксаваліся сакратаркай суда, мілавіднай дзяўчынай Аленай. Самавітасці ёй надаваў светлы пеплум, які звісаў складкамі з пакатых плячэй. Увогуле яна нагадвала лілею ў ціхай завадзі пры калючых зарасніках.

За назвамі дакументаў пільна сачыў таксама і падсудны. Пры гэтым занятку ён раз-пораз прысаджваўся за пісьмовы стол, што мацаваўся да падлогі ў клетцы, раскладваў дыптых і штось занатоўваў.

– Высокі суд! – вязень падхопліваўся ўсялякі раз, калі з нейкай трактоўкай не пагаджаўся, і, узяўшы дазвол, тлумачыў... Суддзя прымаў тое да ведама.

Арыштавалі Льва без усялякага на тое дазволу Яе высокасці Пракуратуры, без дазволу хоць бы фармальнага. А навошта? Тут іншая логіка, даступная толькі багам, ды яшчэ Набісу... Льву не прад'явілі ў належны тэрмін і абвінавачванняў. Пасутнасці, для пошуку іх і пачалося следства, што цягнулася паўтара гады. Яму ставілі ў віну нібыта цяжкі стан парфумнай вытворчасці, якой ён загадваў на момант арышту. Парфума, маўляў, дрэнна пахне, не мае попыту... Але ж, нягледзячы на ягонае абгрунтаванае патрабаванне дадаць да матэрыялаў следства акт перадачы яму прадпрыемства рамеснікаў, адкуль відаць як на далоні, у якім стане вытворчасць была датуль, як ён яе прыняў, – гэтага не зрабілі. Дарэчы, паралельна з ім арыштавалі яшчэ і ягамосця Шарыпава. Хто ён? – высвятляць, бадай, не мае патрэбы. І па той справе ніякіх пытанняў да Льва не ўзнікала, нават у сведкі яго не запрашалі. Тым не менш, цяпер, калі ўпамянёны закулісны дзеяч загадкава з'ехаў, знік на быстраногім кані, спрабуюць вярнуцца да той справы і штучна ўблытаць у яе нашага шаноўнага падсуднага, зняволенага толькі за тое, што разагнуў спіну і прапагандаваў дэмакратыю. Усё – як у бязладным сне.

І, тым не менш, тым не менш я прымушаў сябе слухаць і слухаў усё, што напрыдумвалі, гледзячы, пэўна, у столь казённых пакояў, следчыя. Ад суму і маркоты, ад дзяжурнага манатоннага барматання суддзі, круглагаловага, мажнага, з баксёрскімі біцэпсамі жраца – паплечніка спадарыні Феміды – у мяне міжволі вейкі зліпаліся. Сонны, я зноў мог заснуць. Пажвавеў, узварушыўся, толькі калі суддзя сам набыў трохі звону ў голасе і пачаў зачытваць акадэмічныя характарыстыкі, наградныя лісты розных гадоў на падсуднага. Аўдзяк, мой даўні прыяцель, крактаў ад задавальнення і штурхаў мяне пад напаўсонную рабрыну:

– Міхась, кха-хе! Го, ты чуў? Шэльмы, такога чалавека падставілі! Ды ён жа працаваў бы сабе і працаваў сто лят, спакойна варочаючы глыбы, якімі высокае чынавенства завальвае вытворчасць. Ён не заяц, а леў, ён геній! Толькі полісная асацыяцыя рамеснікаў неспадзеўкі вылучыла яго на кулачны бой з Набісам. За абразу іх годнасці... І гэта цяпер ляжыць у падтэксце судзілішча як цяжкая віна.

– А ты тут часта бываеш?

– Амаль штодня. Як пачаліся гэтыя слуханні. І не таму, што вельмі цікава. Раз ці два заснуў... Але, уяві, у зале – анікога, і так шкада чалавека. Адмысловы спектакль, які павінна б паглядзець і паслухаць усё спадарства, – Аўдзяк зрабіў паўзу, штосьці абдумваючы: – Ты знаеш, Міхась, ёсць, аднак, штосьці добрае і ў гэткіх езуіцкіх высілках. Нябось, пыхлівых чыноўнікаў з вышыні апускаюць на зямлю! Адсюль яны лепей разумеюць народ. Так і з гэтым... Ці ж пачуў ён мяне, калі я прыходзіў і прасіў ласкі ўладкавацца на працу? Медыцына церпіць ад невуцтва, і я цярпеў ад ліхадзеяў... Не, ён мяне не пачуў. А цяпер мы з ім як таварышы.

– Гм, – у маёй душы варухнуліся складаныя пачуцці.

Суддзя зрабіў паўзу і пільна, але не калюча паглядзеў на майго прыяцеля, з вуснаў якога на залу наплываў зычны шэпт.

– Прашу ціішыні...

І тут Аўдзяк, кідаючы выклік рэгламенту пасяджэння і, можа, самой Фемідзе, выгукнуў:

– Час выпусціць чалавека на волю!

– А-а-ах! – з-за стала не раўнуючы пробкай узляцеў угору, узмахнуў рукамі, бы падсечанымі крыламі, і, здаецца, кульнуўся ў паветры пракурор – чыннік справы. Як падкошаны сеў ён, так і не вымавіўшы ні слова пратэсту, а толькі адкрыўшы рот у нямым здзіўленні. Уявіць варта!

Суддзя далей павёў справу. Ён не заўважыў парушэння рэгламенту і ў добрым настроі доўжыў пералік узнагарод, зачытваў новыя ўражлівыя характарыстыкі на вязня.

У перапынак мы з Аўдзяком пакінулі пасяджэнне, і ўжо на вуліцы ён даў волю словам:

– Міхась, як ты думаеш, чым скончыцца гэты дантаўскі спектакль?

– А я, браце, хацеў бы пачуць прагноз ад неаднойчы бітага істца і падсуднага.

– Калі ласка, – пагадзіўся прыяцель. – Суддзя, які па закону і па тым, што чуе яго няўклюдная душа, упаўне мог бы зляпіць апраўдальны прыгавор, не зробіць гэтага. Не-е, ён не апраўдае падсуднага. Чаму? Набісам яму не дадзена права на гэта, і лёс руплівага, добрага чалавека незайздросны. Зляпаную на яго прыдворным груганнём справу будуць цягнуць, сціскаць і зноў штучна расцягваць ажно да выбараў новых суддзяў. Калі не дадуць вязню адразу два набісаўскія тэрміны, як Бандажэўскаму.

– Лёня-Лёня, няма ладу ў нашых абшарах, няма мяжы паміж жывым і мёртвым. У новым свеце мы, уласна, і гледачы і ўдзельнікі адмысловых спектакляў. Вось ты служыў у эпіцэнтры чарнобыльскай навалы, ратаваў людзей, здароўе сваё павярэдзіў, але колькі год б'ешся, дамагаешся, каб аднавілі на працы? Пяць? Сем?..

– Багата.

– Ты ўпарты і, да таго ж, актуальна і правільна ставіш пытанні аб радыяцыйных захворваннях, я гэта ведаю як юрыст і таксама ліквідатар планетарнай аварыі. Адно цябе не слухаюць.

– А хіба ты не разумееш, чаму?.. Тут увогуле транскантынентальная драма! Пяць-шэсць дзесяцігоддзяў запар яе разыгрываюць вядомыя нам Сусветная арганізацыя аховы здароўя і МАГАТЭ. Дзялкі гвалцілі і гвалцяць прыроду, запаскудзілі зямлю радыеактыўнымі рэчывамі, а ў Міжнароднай класіфікацыі прычын і хвароб, якія вызначаюцца СААЗ, адсутнічае спектр прамянёвых захворванняў, у тым ліку і сіндром хранічнай стомленасці, які выклікаецца малымі дозамі радыяцыі і ў шэрагу выпадкаў называецца хваробай Шумілава. Тут хоць ваўком вый – ніхто не пачуе!

– Так... Але ж аднойчы твая мосць усёткі была пачута. На пасяджэнні суда па тваім іску суддзя-жанчына – баба з гонарам – дазволіла сабе павярнуць справу да аднаўлення цябе на працы ўрачом паліклінікі.

– Так, пра гэта я ўспамінаю з прыемнасцю, але – сапраўды, але... Зноў канцэрт! Галоўурач,ману якога ў судзе паспяхова выкрылі, сімуляваў страту прытомнасці. Суддзя адмяніла пасяджэнне. А затым, праз дзень, калі той пабегаў недзе па набісаўскіх кабінетах, як крута павярнула! Назад... І пайшла ўжо, папялялася за пустым, за аблудным абвінавачваннем пракурора. Таму я і бачу: за нашай нядоляй мае месца юрыдычная анемія і ігнаруюцца самі законы. Суддзі няволькікі. Яны ж людзі таксама. Не багі і не багіні, на жаль, а рабы.

Лявон Аўдзяк радаваў мяне добрым і, зазначу, нават прадстаўнічым наземным выглядам, бадзёрым філасофскім настроем. Дзякуючы сваім метадам лекавага галадання і здаровага ладу жыцця, якія прапагандаваў, ён і сам нарэшце пазбавіўся ад колішняй кволасці, набыў твар, набыў паставу гаспадара ўласнага лёсу. Зрэшты, ці быў ён гаспадаром?.. Хутчэй рабіў выгляд. Ён збіраў крамолу на адказных у медыцынскай гаспадарцы асоб і кансультаваўся ў мяне па юрыдычных пытаннях, ды часам ставіў мяне ў тупік.

Цяпер Аўдзяк выцягнуў са сваёй тоўстай, набітай паперамі папкі ліст – копію нейкага дакумента, на пачатку якога стаяла: «У НЕНАЦЫЯНАЛЬНУЮ АКАДЭМІЮ НАВУК...». Падаў мне, а сам па ходу тлумачыў:

– Да гэтага яшчэ ніхто, апроч мяне, не дадумаўся. Я прапаную: дзеля ўмацавання існуючага дзяржаўнага ладу, якім Набіс гэтак дагадзіў рабам, выдаць поўны збор твораў дзяржаўных абвінаваўцаў – ад самога Набіса да ніжэйшых. Скажам, за апошнія пяць-шэсць гадоў... Ну – як?!

Я аслупянеў – ад навізны і нечаканасці ідэі. Пераадольваючы самога сябе, ледзь выціснуў:

– Віншую! У нас падсудная судовая творчасць цяпер самая масавая і мае нават высокія ўзоры... Даруй, аднак, калі нехта скажа, што твая ідэя дрэнна пахне!

– Магчыма, магчыма... Сярод г...на жыць дый не пахнуць – няможна.

У вачах Аўдзяка тым часам гарэлі хітрыя, бадай, няўлоўнага сэнсу іскрынкі, і я пажвавеў:

– Якім літаратурным жанрам сачыненні вызначыш?

– Быліны, казкі... Хіба.

– Для каго?

– Для дзяцей. Чакай... Для дзяцей паўналетняга ўзросту! Усёк?

– То будзе аграмадная серыя – у мільён тамоў. Фантастыка!

- Аўдзяк, я, – Лёня тыцнуў пальцам сабе ў грудзі, – я, калі на тое, гатовы ўжо сёння запатэнтаваць і назву серыі. Сапраўды, яна ад мора разліўнога, ад Эгейскага, ха-ха... Яна ёсць «ЛУКАМОР'Е».

– Ого!

Я любіў гэтага актыўнага, бескарыслівага дзецюка, у нейкай меры збродлівага і разам з тым летуценнага грамадскага дзеяча, прыроджанага спартанца.

Неўзабаве з-за прысадаў перад намі развінулася ў сваёй роўнай брукаванай красе цэнтральная плошча. На ёй калісь ідалам стаяў Правадыр усіх народаў. Цяпер яна была вольнай, роўнай, разлеглай, і мы заўважылі там штось незвычайнае, амаль бангалорнае – россып пратэстантаў. Іх, праўда, было не густа, і тыя, што стаялі ланцугом, трымалі перад сабой у руках партрэты дарагіх ім людзей, неардынарных асоб, вядомых сваім імпэтам у Спарце. З некаторымі з іх у свой час я быў знаёмы. На плакатах, якія зрэдзь пракідаліся, у вочы білі словы: «Хочам ведаць праўду!» І яшчэ: «Дзе Юры Захаранка? Дзе Віктар Ганчар? Дзе Анатоль Красоўскі? Дзе Дзмітрый Завадскі?!» Пыталіся, няйначай, у Набіса?

Я прыгадаў, з чаго і як у гэтай старажытнай краіне ўсё пачыналася і падумаў пра Льва – вязня за кратамі з такімі жывымі вачыма. Ён быў вырваны з экаполіса, дзеля якога жыў, тварыў, летуценіў. А колькі іх такіх, закратаваных...

– Міхась...

Напэўна мы з Аўдзяком думалі пра адно і тое ж.

– Міхась, а Міхась, – доўжыў ён у роздуме, – уяўляеш, як гэтаму, што пасадзілі за краты, пашэнціла!

– О-о, ён шчаслівы чалавек: хоць і не прычакаў кулачнага бою, ён яшчэ захаваў надзею на штосьці.

– А вось яны, – Лявон кіўнуў на натоўп, – зноў парушаюць набісаўскую дактрыну дзяржавы. Згодна з ёй, усе павінны б трымаць у руках партрэты не нейкіх там пазбаўленых даверу людзей, а аднаго-адзінага чалавека – ну, цара, ну, няхай, Ірада, такога прыязнага, уніклівага, ласкавага, мудрага, і крычаць «Віват!», перапрашаю: «Да здравствует!» Ззяць парадам, пляскатаць ад уздыму патрыятычных пачуццяў і шчасця – бы на дажынках падчас уручэння прызоў.

Мы стаялі за два крокі ад стрыманай, яшчэ прыцягальнай, яшчэ не пабляклай у сваім веку маладзіцы з каменным тварам. У руках яна трымала партрэт Завадскага.

– Шаноўная! – з усмешкай, што абяцала ці то жарт, ці ўсплеск спачування, мовіў Лёня Аўдзяк: – Сваім выглядам вы робіце яшчэ больш гнятлівай і змрочнай прастору, а галоўнае: дзейнічаеце насуперак пануючай ідэалогіі, што тоіць небяспеку для кожнага.

 



# Жывапіс як наканаванне

Алесь Пушкін нарадзіўся ў 1965 годзе ў мястэчку Бобр Крупскага раёна Мінскай вобласці. Бацька яго – электрык, маці працавала ў леспрамгасе.

Захапляцца маляваннем пачаў з шаснаццацігадовага ўзросту і па валявым рашэнні бацькі ў 1978г. быў адпраўлены на вучобу ў Мінск, у Рэспубліканскі каледж мастацтваў. Першым яго прафесійным настаўнікам стаў П.Шарыпа, які не толькі навучыў асновам выяўленчага мастацтва, але і абудзіў нацыянальную свядомасць юнака, дапамог вызначыцца як асобе.



Закончыў каледж, у 1983 г. Алесь паступае ў Беларускую нацыянальную акадэмію мастацтваў на факультэт манументальна-дэкаратыўнага мастацтва. З адзнакай і пахвалай, з правам выставіць сваю дыпломную работу на Усесаюзным конкурсе выпускнікоў у Ленінградзе ён бліскуча заканчвае акадэмію. А праз год, у 1991 годзе, ужо становіцца членам Саюза мастакоў СССР. Гэты перыяд у сваім жыцці мастак ахарактарызаваў так: «Так лёсам склалася, што давялося мне жыць вось у часы перабудовы, і па сутнасці студэнтам з 5 курса я ўжо адчуў сябе вольным, у краіне нешта змянілася і мяняецца дагэтуль, і я дзякую Богу, што жыць давялося мне ў гэты час – вельмі складаны, вельмі цікавы».

Гады «залатой маладосці» Алесь Пушкін праводзіць у Віцебску, куды быў размеркаваны на працу. Горад Марка Шагала і Казіміра Малевіча даў вельмі многа для яго творчага станаўлення, звёў са знакамітасцямі, якія рашуча паўплывалі на вызначэнне грамадзянскай пазіцыі. Там жа Пушкін заснаваў прыватную галерэю, якая была вельмі папулярнай, наведваемай.

Неўзабаве новая палітычная плынь перастала імпанаваць вёрлівай дзейнасці беларускага творчага асяродка ў Віцебску. Мастак вяртаецца на сваю малую радзіму, дзе зараз і жыве, і творыць. «Надалей я так і буду жыць, жыць у сваёй краіне, мець маленькія радасці з-за таго, што я тут патрэбны, пісаць тое, што мяне ўсхвалюе, даглядаць сваіх старэнькіх бацькоў, любіць сваю жоначку і маліць Бога, каб у нас было сямейнае шчасце і доўгія гады жыцця», – адзначыў Алесь Пушкін.

**– Спадар Алесь, да якой тэмы альбо жанру найчасцей звяртаецеся ў сваёй творчасці?**

– Найбольш любімы жанр – асацыятыўны нацюрморт. Прыкладам з'яўляецца карціна «Чырвоны замак», якая адлюстроўвае сённяшні дзень.

**– Кажуць, каб у поўным сэнсе зразумець твор пісьменніка, трэба чытаць між радкоў. Ці патрэбна неяк своеасабліва прыглядацца да вашых карцін?**

– Ёсць творы-рэбусы, творы-асацыяцыі. Гледзячы на іх, адразу адчуваеш пэўны сэнс. Што датычыцца маіх карцін, то я стараюся, каб у іх адкрыта праглядвалася хараство зямлі.

**– Каго з беларускіх майстроў лічыце вартым, каб пра іх памяталі заўжды?**

– Па-першае, В.Бялыніцкі-Біруля, М.Сіліваковіч. Гэта з папярэдніх пакаленняў. З сучасных – Вашчанка. Дарэчы, Вашчанку я лічу сваім настаўнікам.

**– Ці жадалі калі-небудзь усё кінуць і заняцца новай, да сённяшняга дня незнаёмай працай?**

– А вось займаюся цяпер і гэткай, незвычайнай для мяне справай – татуіроўкі і афармленне новага музычнага CD (супольны музычны праект беларускіх музыкаў на словы Ул.Караткевіча).

**– На вашыя выставы прыходзіць шмат моладзі?**

– Палова наведвальнікаў на маіх выставах – моладзь.

**– Што хацелі б ёй пажадаць?**

– Галоўнае – навучыцца нешта добра рабіць, нейкую добрую нішу заняць у сваім месцы - нашым грамадстве. Ды і ўсё пазнаваць у параўнанні. І вось зразумееш, што наша краіна вельмі харошая, калі пабудзеш шмат дзе, тым больш, што мы тут народжаныя і павінны быць гаспадарамі, а не прыезжыя адусюль людзі. А то наш чалавек на сваёй зямлі, у сваёй краіне нудзіцца. Гэта дрэнна. Так што – вучыцца, навучыўшыся чаму-небудзь – працаваць і быць гаспадаром ТУТ.

**– Якой бачыце Беларусь праз год 10?**

– Адказваю вельмі проста: галоўнае – суверэнной, незалежнай, а астатняе, вось пабачыце – будзе паляпшацца.

– Шчыра дзякую за гутарку.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ,**
**Вілейка**

## Адчуванні

**Яўген ГУЧОК**



***

**Ёсць дзве антэны ў чалавецтва –**
**Антэна духу і антэна плоці...**

**Антэна духу шчэ не ўзнялася,**
**І мы ад Творцы шчэ не маем звестак.**

**Антэна ж плоці шчэ не апусцілася,**
**І ловім мы, бярэм і ўспрымаем**
**Зямныя, так бы мовіць, асалоды,**
**З чаго і плодзімся мы толькі плоццю,**
**Нібыта чэрві ў памыйнай яме.**

***

**Сёння гэта важная галава**
**(Заўжды бяздумная, бездухоўная),**
**Не паплёўвае, не пасвіствае,**
**Не падбівае нагамі бутэлькі**
**З-пад розных «Kola»ў...**

**Сёння нібыта вісіць яна...**

**Сёння яна ў клопаце, -**
**Не зляцець бы з наменклатурнай**
**жэрдкі.**

***

**І прадпрыемствы, і банкі, і офісы –**
**Усё гэта толькі мясціны,**
**Мясціны, дзе памірае душа...**

**А мы на ланцугах сваіх целаў**
**Свае душы туды імкнем.**

***

**Чым больш мы да сабак падобны,**
**Тым болей коламі з'яўляемся аўто,**
**У якім у бездань стрымгалоў**
**Імчыць начальства...**
**Вядома, разам з намі.**

***

**Іх твары**
**Над форменным новым адзеннем**
**Глядзяцца, як кругляні**
**Свежых высокіх пнёў...**

**Мой божа!**
**І іх жа тут –**
**Процьма.**

***

**Шнур птушыны ў небе –**
**Бы галінка чароўнага саду –**
**Адлятае ў вырай –**
**Вяртаецца ў Эдэм.**

***

**Свішчуць-пасвістваюць птушкі –**
**Бы хтосьці цудадзейна-чароўнай іголкай**
**Да вясны прышывае мяне.**

***

**Промням сонечным**
**Птушкі дарогу пералятаюць, –**
**І ад гэтага ў небе**
**Шчэ больш весялей.**

***

**Як два матылькі ў паветры,**
**Так гэтыя два пудзелькі на лужку**
**Гарэзяць, дурэючы носяцца –**
**Радуюцца жыццю.**

***

**Стаіць кальварыйскі касцёл –**
**Нібыта ідзе дарога**
**у нябесную далячынь.**

***

**Зямная аура мая,**
**Ты распаўзлася вельмі,**
**І стаў ужо здабыткам я**
**Тут розных д'яблаў, шэльмаў...**

**Ды час збіраць сябе й цярпець;**
**Трымаць душу ў малітве трэба...**
**Тады мо здолею займець**
**Спадзеву на мясціну ў небе.**

---

Аўдзяк як у ваду глядзеў!.. Не паспела жанчына пацяплець тварам ды глянуць у ягоны бок, як ад гмаха музея Айчыннай вайны штось зараўло. Штосьці металічнае і зусім незямное! Яно паўстала, яно вокамгненна вырасла як сапраўднае страшыдла, як пачвара вышынёй у два-тры паверхі. З лапамі-клешнямі, што варушыліся акурат бы лапы снегаачышчальніка ўзімку. І от гэта страшыдла пайшло на ланцуг нераўнадушных (да лёсу зніклых) людзей і стала заграбаць іх. Разам з партрэтамі. У сваё чэрава-кузаў...

Пачалася паніка, грамада выкрыквала праклёны – невядома каму – за нядолю, за нечывелі, за здзек, пішчала і енчыла. У мяне ж сэрца моцна калацілася, расхістваючы клетку, утвораную, здавалася, з жалезных прутоў, я стагнаў у сне.

Далей мяне, змярцвелага, у наручніках, што націралі скуру, вялі па калідорах падзямелля і пакінулі ў нейкім пакоі з падзёўбанаю хіжым лёсам сцяною! Я вывучаў сутарэнне, тым часам чалавек, з пагонамі оберштурмбанфюрэра, што стаяў насупраць, бадай, у дзесяці кроках ад мяне, узняў пісталет на ўзровень сваіх вачэй, адлітых са свінца. Пісталета, падобна, я і не бачыў, бо дзівіўся з ягонай галавы – яйкападобнай, тупой, з прычоскай пад вожык, дзівіўся з чырвонага твару, які расплыўся ва ўсмешцы цікавасці і задавальнення. Я заўважыў нават шчарбіну ў роце – злева ў верхнім радзе – не хапала зуба. Морда Сабакевіча! Акурат вось такім мы, вучні свайго часу, уяўлялі сабе гэты тып са школьных хрэстаматый.

Ён, пэўна, цэліўся ў мяне, дальбог, бо поплеч са мной нікога больш не было, а за ім – за ім стаяў спецыяльны шчыт, або экран з проразямі, і праз шчыліны адтуль утаропіліся на мяне цікаўныя вочы асістэнтаў, некаторыя з іх здаваліся мне нават знаёмымі, па частых здымках у друку. Яны таксама цэліліся ў мяне, з нацягнутых лукаў.

Толькі мне ўжо было ўсё роўна. Адно са шкадобай падумалася, што не паспеў выдаць працу, якая з усёй навуковай або юрыдычнай дасведчанасцю выяўляла і паказвала чарговую спробу канстытуцыйнага перавароту на гэтай атручанай маною зямлі, дзе больш не было месца ні роднаму слову, ні сягаючаму з глыбіняў душы і заўжды бунтарнаму (у ліхіх варунках жыцця) сумленню, панове, сум-лен-ню! А... О-о... Без сумлення і ўвесь гэты памрок, туман, чарната... Уся набісамагія.

Нехта за шчытом гікнуў – Сабакевіч мігам напружыўся і тарганаў пальцам, які ляжаў на курку. Глуха бухнула і ці то на нейкую долю секунды раней, ці ў той самы момант – шась! Не паспеў я міргнуць, як хтосьці засланіў мяне. На маім месцы стаяў... не я, не я... Паўстаў паміж мной і руляй пісталета чарнявы, атлетычнага складу чалавек, энергічны, імгненнай рэакцыі, і я, кулём адлятаючы ўбок, заўважыў яго вострыя вочы ў адмысловым вузкім разрэзе і чорныя вусікі на хударлявым, са смуглявымі скуламі твары, адкрытым і гожым. На ягоных плячах адсвечвалі аксамітам пагоны. «Захаранка?!» – сіганула ў памяці, і, усхваляваны, я прачнуўся.

Морак не даваў мне мажлівасці зразумець, дзе я і што са мной, – які свет наўкола...

Які свет навокал... Адно не пакідала мяне адчуванне, што я памёр за той нядоляй, за нечывелі і снілася мне...

А чаму тут здзіўляцца? Я моцна страсянуў галавой.

За вакном у цёмнай сіняй далечы бралася на золак, ззялі асобныя крапулькі ўгары. На памяць усплыло штось вячыстае: «Ноччу я лічыў зоры...». Гэтыя словы я пачуў на пагорку ў прысадах, усеяным ліцэістамі. Адзін з іх чытаў:

*Ноччу я*
*Лічыў зоры.*
*Іх ужо больш,*
*Чым было ўчора,*
*Калі пад небам я спаў.*

Неба спакваля ачышчалася ад цёмных фарбаў, і да мяне вярталася пачуццё рэальнасці. У прасторы ж гуляла і намнажалася разам жменька маладых промняў. Сонца з давён- даўна ткала адзежу зямлі, яно зноў уздымалася, каб падоўжыць распачатую працу, і – ачынаючыся ад соннай дрымоты – яго чакала зямля.

 




Тыдзень таму свет адзначаў Міжнародны дзень аховы помнікаў і памятных мясцінаў. І аматары даўніны нашай краіны таксама. На гэтых здымках мы падаем выгляд некалькіх помнікаў нашай гісторыі і культуры, да якіх яшчэ не набліжаліся рэстаўратары і, хутчэй за ўсё, ніколі не наблізяцца, можа, хіба толькі, каб пасумаваць. У нас такіх сімвалаў Дня аховы - у кожным раёне

Фота У. Шлапак







# Вильня. 1794

## *Некоторые страницы из мемуаров генерал-майора С.А.Тучкова*

Працяг. Пачатак у №5

Генералъ Косаковский, для безопасности, удвоилъ при квартире свой караулъ, состоящий изъ 7-го польскаго полка. Но имъ то и былъ онъ арестованъ, и на другой день вместе съ однимъ судьею Швейковскимъ, на которого поляки имели подозрение, былъ на площади повешенъ въ российском генеральскомъ мундире и въ ордене св.Александра. Генералъ Арсеньевъ со всемъ его штабомъ, исключая двухъ адьютантовъ, успевшихъ спастись ко мне, полковникъ псковскаго полка Языковъ, комендантъ полковникъ Ребокъ и плацъ-майоръ и многие штабъ- и оберъ-офицеры были взяты въ пленъ, а некоторые убиты.

Я потерялъ при семъ случае трехъ офицеровъ, до 60 человекъ артиллеристовъ, две пушки, стоящия при гаупвахтахъ, и какъ я, такъ все офицеры и солдаты лишились своихъ экипажей. Солдаты старались только схватить поскорее ружья и сумки и, накинувъ на себя плащъ, или что попалось подъ руку, спасались въ таком виде въ паркъ...

Предъ полуднемъ приехалъ ко мне по проселочной дороге переодетый въ партикулярное платье, на жидовской повозке, адьютантъ генералъ-майора Цицианова, изъ Гродны. Онъ привезъ мне отъ него повеление, которымъ онъ также спрашивалъ меня: справедливы ли достигшие до него слухи, якобы я съ артилерию и частью пехоты спасся изъ Вильны? Затемъ онъ требовалъ, чтобы я уведомилъ его, какая потребна мне съ его стороны помощь, и не имею ли нужды въ продовольствии. Я написалъ ему обо всемъ происшествии, о количестве войска и артиллерии, при мне находящихся, прося прислать сотни две казаковъ, или другой какой легкой конницы. Въ то же время просилъ выслать въ местечко Меречь четыре роты пехоты съ четырьмя пушками и расположить оные на противоположномъ мне берегу реки. Мереча, для занятия переправы, потому что на реке нетъ моста, и я долженъ буду переплавляться на паромахъ...

На третий день, выступя въ намерении достичь до Мереча, встретили мы при самомъ вступлении два эскадрона карабинеръ, присланныхъ ко мне на помощь отъ генерала князя Цицианова. Я требовалъ легкой кавалерии, а мне прислали, за неимением оной, самую тяжелую, каковы были тогда карабинеры. Ротмистръ, начальствовавший оными, сказалъ мне, что генералъ выслалъ на рэку Меречь четыре роты съ пушками, которыя и разместилисъ на противномъ берегу лагеремъ. Они прибавили, что князь весьма былъ обезпокоенъ, когда адьютантъ его сказалъ ему, что, по отбытии его отъ васъ, слышалъ онъ въ дороге сильную пушечную пальбу. Сие обстоятельство заставило меня послать къ нему нарочного съ донесениемъ о происшедшемъ сражении...

Во время похода нашего отъ Мереча до Гродна неприятель уже не показывался...

Приближаясь къ Гродне, мы увидели лагерь генерала князя Цицианова; все войско было выведено изъ онаго и устроено въ большой баталионъ каре. Вожатый повелъ насъ прямо къ оному. Фасъ, на который мы шли, раздвинулся при нашемъ приближении, и весь мой отрядъ введенъ былъ въ середину каре, где находился генералъ князь Цициановъ, съ иконами и духовенствомъ. При вступлении нашемъ въ оный, былъ отслуженъ благодарственный молебенъ, по окончании котораго, генералъ, поздравивъ всехъ насъ съ победою, пригласилъ меня и всехъ офицеровъ къ себе на обеденный столъ. Солдатамъ же, расположивъ ихъ въ лагере своего отряда, велелъ выдать порцию вина.

По утру на другой день велелъ мне генералъ, собравъ весь мой отрядъ съ пушками и музыку, какую могъ я набрать, устроитъ пленныхъ поляковъ съ ихъ знаменемъ позади отряда и пройти по главнымъ улицамъ Гродны, чтобы переправиться за реку Неманъ, по исправленному уже мосту. Тамъ приказалъ онъ мне обратить все мои пушки противъ города, а состоящий подъ начальствомъ его отрядъ устроилъ с другой стороны города и обратилъ на оный всю свою артиллерию, приказавъ съ симъ вместе запереть все городские ворота. После этого, чрезъ посланных переговорщиковъ потребовалъ онъ отъ города контрибуцию 30 тыс. серебряныхъ рублей, сукна, полотна, сапожнаго товара для своего отряда, также лошадей, повозокъ и упряжи. Все сие въ скорости было исполнено и я возвратился съ отрядомъ моимъ въ лагерь князя Цицианова. Тамъ велено было мне сдать людей разныхъ полковъ и командъ по ихъ принадлежности, равно и пленныхъ, а самому съ моей ротой следовать въ Несвижъ и явиться подъ начальство генералъ-поручика Кнорринга.

За все сии подвиги был я награжденъ отъ Императрицы Екатерины II кавалерскимъ орденомъ Св.Георгия 4-го класса, находясь еще въ чине капитана артиллерии; тогда орденъ сей былъ въ великомъ уважении въ России.

### Осада Вильны

Въ местечке Новомышъ простояли мы не более двухъ дней. После чего весь корпусъ генералъ-лейтенанта Кнорринга, разделенный на три отряда, - одинъ подъ командою генералъ-маиора Ланского, другой – подъ начальствомъ генералъ-майора графа Николая Зубова, а третий – подъ предводительствомъ генералъ-майора Бенингсена, – тремя разными дорогами выступилъ для взятия города Вильны. Все сии отряды, не встретивъ нигде неприятеля, соединились въ селении Медникахъ, отстоящемъ отъ Вильны въ пяти миляхъ. Откуда, выступя вместе, стали въ лагерь въ полутора миляхъ отъ города.

Вильна построена въ низменномъ месте и окружена довольно высокими и крутыми горами. Она имела много обширныхъ предместий, но большая часть оныхъ со стороны Гродненской и Троицкой дороги были сожжены отрядомъ моимъ во время революции. Однако довольно большая часть ихъ остались еще отъ дороги, ведущей изъ Белоруссии къ такъ называемой Острой Браме, или воротамъ. Тамъ находилось много каменного строенья, расположенного въ тесныхъ и кривыхъ улицахъ. На высотахъ, окружающихъ Вильну и имеющихъ предъ собою ровное местоположение, после революции построили поляки ретраншементъ съ батареями въ приличныхъ местахъ.

Корпус нашъ состоялъ изъ 4 тысячъ конницы, 8 тысячъ пехоты и 30 пушек полевой артиллерии, не считая находящихся при драгунскихъ и пехотныхъ полкахъ малаго калибра 26 орудий. Генералъ-поручикъ Кноррингъ, осмотревъ неприятельское положение, сделал распоряжение къ нападению на неприятельский ретраншементъ. Отряды генералъ-майора графа Зубова, Бенингсена и часть отряда генерала Ланского назначены были къ действию. Самъ же генералъ Ланской съ драгунскимъ полкомъ полковника барона Чесменскаго, съ 3 тысячами пехоты и моей артиллерийской ротой оставлены были въ резерве, за четыре версты позади места сражения. Генералъ Кнорринг, приметя мое неудовольствие при семъ случае, сказалъ мне: «Вы довольно отличились при начале сей кампании, и надобно вамъ себя поберечь, потому что поляки имеютъ противъ васъ личную злобу. Я читалъ это въ ихъ газетахъ и въ подброшенныхъ къ лагерю нашему письмахъ. Они положили цену за вашу голову и вместе съ генералъ-майором Денисовым. Знаете ли вы, – продолжалъ онъ, улыбнувшись, – что они даже проклинаютъ васъ въ публичныхъ своихъ молитвахъ». «Много для меня чести, – отвечалъ я ему, – впрочемъ, лестно бы было для меня участвовать во взятии того города, изъ котораго въ столь трудныхъ обстоятельствахъ вышелъ с честью».

На другой день после сего разговора, поутру, довольно рано выступили назначенныя къ действию колонны. Я и полковникъ Чесменский, поехавъ прямо по большой дороге къ Вильне, прибыли мы на среднюю нашу батарею. Она стояла на открытомъ месте и старалась выстрелами своими сбить неприятельския пушки, стоящия за брустверомъ въ амбразурахъ. Посмотревъ на сие действие, отправились мы на батарею леваго фланга и нашли оную въ таковомъ же занятии...

Чрезъ несколько времени увидели мы, что неприятель началъ вывозить пушки свои изъ амбразуръ за брустверъ. Все закричали: они отступаютъ, они отступаютъ! Полковникъ Чесменский сказалъ генералу: «Позвольте мне взять мой драгунский полкъ и не дать неприятелю время увезти пушки въ городъ». Когда генералъ на сие согласился, тогда и я сталъ просить, чтобы и мне позволено было хоть частию моей роты подкрепить его полкъ. Я уверялъ, что на такомъ разстоянии я мало могу отстать отъ конницы. «Это не нужно, – отвечалъ генералъ, – но если вамъ непременно хочется участвовать въ семъ деле, то возьмите только две надежные пушки Вашей роты и будьте тамъ, где я буду находиться»...

Разстояние было недальнее и я следовалъ близко за конницей. Но, подойдя къ линии, должно было мне остановиться тамъ, где находился генералъ, а Чесменский собралъ быстрое нападение на неприятельский ретраншементъ. Доскакавъ до онаго, встретилъ онъ довольно глубокий и широкий ровъ. Онъ велелъ было драгунамъ своимъ спешиться и, примкнувъ штыки, идти на приступъ. Но поляки имели время поставить пушки свои опять въ амбразуры и произвели по немъ сильный залпъ картечью и пулями изъ мелкаго ружья. Ихъ находилось тамъ до 4 тыс. пехоты. Чесменский принужденъ былъ возвратиться назадъ и удалиться съ поспешностию, бывъ провожаемъ картечами и ядрами.

Такъ какъ конница действующей линии устроена была въ колонны, чтобы следовать за полками Чесменскаго, равно и пехота, – то генералъ-поручикъ Кноррингъ велелъ идти пехоте на штурмъ тремя колоннами. Сие было въ три часа пополудни при самой ясной погоде. Средняя колонна вошла прежде всехъ на валъ, но потерпела сильное поражение и лишилась начальника своего, полковника Короваева, убитаго на семъ приступе. Я, оставивъ свои пушки, примкнулъ къ правой колонне и вошелъ вместе с нею въ ретраншементъ. Увидя тамъ до восьми пушекъ, оставленныхъ неприятелемъ, также множество убитыхъ и раненыхъ, поспешилъ поздравить генерала съ победой.

Между темъ поляки успели уйти въ городъ и затворили ворота. Ген. Кноррингъ послалъ на возвышенное место трубача и велелъ трубить для переговоровъ. Но по немъ начали стрелять изъ ружей и ранили его. Вначале подумали, что это произошло по ошибке, послали другого, но и тотъ подвергнулся той же участи. Тогда генералъ нашъ приказалъ приблизить артиллерию и, поставя пушки на высотахъ между ретраншементомъ и предместиемъ, велелъ бомбардировать городъ. Скоро наступила ночь и, пальба была прекращена. После этого генералъ приказалъ мне поутру на другой день объехать осаждаемую часть города и избрать место, съ котораго могъ бы я стрелять въ Острыя ворота. Съ началомъ дня объехалъ я всю приказанную мне часть города, но, не найдя нигде удобнаго места, возвратился и донесъ о семъ. Я сказалъ ему: «Если нетъ другого средства занять городъ, какъ черезъ отбитие воротъ, то дайте мне надежное прикрытие и прикажите идти съ сими двумя орудиями въ улицу предместия. Хотя я знаю, что она весьма излучиста, но, при приближении къ стенамъ, откроется такое место, съ котораго можно будетъ выстрелить и разбить ворота». Мне дали въ прикрытие баталионъ егерей.

Все церкви, колокольни, дома и сады, какъ въ той улице, по которой я шелъ, такъ и въ другихъ, заняты были вооруженными обывателями. Надлежало всякий домъ брать штурмомъ и, такимъ образомъ очищая дорогу, подвигаться впередъ. Я не успелъ пройти и половины улицы, какъ убили майора, начальствовавшего прикрытиемъ и трехъ капитановъ.



Працяг на стар. 12

# Вильня. 1794

Працяг. Пачатак на стар. 11

Большая часть офицеровъ была или убита, или ранена, отъ чего егери пришли въ замешательство и, оставя меня съ пушками на улице, отступили. Я успелъ сделать то же, потерявъ несколько бомбардиръ. При выходе моемъ изъ предместия встретилъ я генералъ-майора графа Зубова, который сказалъ мне: «Какъ, и вы ретируетесь»? «Посмотрите, где мое прикрытие», – сказалъ я ему; оно находилось тогда въ довольномъ разстоянии впереди меня. «Я дамъ вамъ другое прикрытие, подити съ онымъ и отбейте непременно ворота». Въ то же время присоединился ко мне Нарвский пехотный полкъ подъ командою полковника Миллера. Это былъ тотъ самый полкъ, который со мною во время революции вышелъ изъ Вильны, но полковника ихъ тогда при оныхъ не было.



Съ другой стороны посланъ былъ къ другимъ воротамъ, называемымъ Заречныя, полковникъ Деевъ съ состоящимъ подъ начальствомъ его пехотнымъ полкомъ и двумя пушками.

Мы начали наступать прежнимъ порядкомъ. Не прошли мы еще и половины улицы до воротъ, какъ поляки открыли по намъ ружейный огонь изъ монастыря, находившагося отъ насъ въ правой стороне, на другой улице. По совету моему послалъ туда полковникъ Миллеръ две роты, неприятель былъ выбитъ, и монастырь былъ занятъ нашими. По мере приближения нашего къ воротамъ, огонь со стенъ города усиливался и становился для насъ вреднее. Я зналъ положение сей улицы и надеялся, что скоро достигнемъ мы такого места, съ котораго можно будетъ стрелять въ ворота. Но, придя къ оному, увиделъ я, что поляки построили при самыхъ воротахъ невысокую каменную стену, окружающую оныя въ виде полумесяца. Чтобы подойти къ воротамъ, надлежало приблизиться къ самой стене, и черезъ устроенное подле нея отверстие въ семъ полумесяце подходить къ воротамъ. Какъ скоро колонна наша стала совершенно открыта съ городской стены, то гренадеры бросились впередъ и подбежали съ малымъ урономъ подъ неприятельские выстрелы къ самой стене, такъ что они не могли имъ больше вредить. Я последовалъ за ними съ моими пушками и вошелъ в полумесяцъ. Несколько знакомыхъ мне гренадеръ меня упредили и, подбежавъ къ самымъ воротамъ, въ затворахъ которыхъ прорезаны были отверстия для стрельбы изъ ружей, они положили въ нихъ свои и начали стрелять въ городъ. Одинъ гренадеръ вдругъ закричалъ мне: «Поспешайте, поспешайте стрелять! Неприятель везетъ пушку и ставитъ въ ворота». Я находился въ это время не далее пистолетнаго выстрела отъ воротъ. Приказавъ гренадерамъ отступить, я успелъ подвинуть орудия еще шаговъ на десять. И выстрелами изъ 24-фунтоваго единорога, заряженнаго картечью, и изъ 12-фунтовой пушки – ядромъ, разбились оныя затворы въ мелкия куски. Такимъ образомъ неприятельское орудие, стоявшее въ городской улице, было подбито. Я ввезъ мои пушки подъ довольно длинный сводъ городскихъ воротъ и началъ стрелять вдоль улицы такъ, что никто не смелъ показаться на оной. Но тщетно уговаривалъ я гренадеръ, чтобъ они вошли въ городъ и заняли находящийся при самомъ входе Греко-российской монастырь, въ который я и хотелъ за ними последовать. Засевъ въ ономъ, мы могли бы трактовать о сдаче города, находясь въ самомъ городе и имея открытыя ворота для подкрепления. Они несколько разъ соглашались на мое предложение; но едва появятся на улицу, увидя неприятеля, выстрелятъ и возвратятся подъ сводъ воротъ для заряжания ружей.

Между темъ колонна, посланная къ Заречнымъ воротамъ, не имела такой удачи, какъ наша. Начальствовавший оной полковникъ Деевъ былъ убитъ, еще не доходя до воротъ, колонна много претерпела и отступила. Последствиемъ сего было то, что неприятель обратилъ все силы противъ насъ. Я отступилъ несколько за ворота, не удаляясь от стены, ибо единственнымъ моимъ спасениемъ было то, что неприятель не могъ такъ наклонять ружей, чтобъ намъ вредить. Но вдругъ открылся огонь позади насъ. Не знаю почему, полковникъ Миллеръ велелъ двумъ ротамъ, бывшимъ в монастыре, что въ предместии, присоединиться къ полку,- и неприятель опять занялъ оный. Онъ еще лучше сделалъ: велелъ ударить сборъ, построивъ людей своихъ въ колонну, началъ отступать, оставя меня съ пушками у воротъ. Надъ воротами была каплица, или небольшая церковь, где находилась чудотворная икона Богородицы, которую поляки особенно боготворятъ; каплица сия наполнена была людьми, производившимъ противъ насъ сильную ружейную пальбу. Я началъ тоже отступать, и вынулъ клинья изъ-подъ пушекъ, далъ имъ темъ полное возвышение, и стрелялъ въ каплицу. Какъ после оказалось, я нечаянно ядромъ разбилъ сию икону. После этого ненависть въ полякахъ ко мне еще более возгорелась. Орудия мои шли одно за другимъ. Когда отошелъ я не более 30 саженъ отъ воротъ, подъ пушкой сломился, к несчастию, отвозной крюкъ при хоботе, за который, зацепя, везли пушку, потому что передки оставлены были въ отдаленномъ переулке. Единорогъ отступилъ благополучно, а я съ пушкой и съ несколькими при оной бомбардирами остался на месте. Тогда было не такъ, какъ ныне; въ российской службе почиталось великимъ стыдомъ оставить пушку неприятелю. Я прижался съ людьми къ одному каменному дому и тутъ размышлялъ, какъ спасти орудие? Вдругъ одинъ мой приятель, котораго никогда не могу я забыть, а именно Козловскаго пехотнаго полка капитанъ Гедеоновъ, показался съ ротою своею на улице. Онъ бежалъ съ нею прямо къ воротамъ, крича: «Ура! Ворота отбиты, пойдемте занимать городъ!» Я спросилъ его: «Что вы намерены делать съ одной ротой?» Но онъ, не отвечая мне ни слова, сказалъ своимъ солдатамъ; возьмите прочь эту пушку, она намъ мешаетъ. Солдаты ухватились за коней и поспешно вывезли оную въ закрытый отъ неприятеля переулокъ, где я имелъ время укрепить мое кольцо подъ прикрытием его роты и выйти изъ предместия.

Я всегда утверждалъ и буду утверждать, что малыя сражения бываютъ для некоторыхъ несравненно опаснее, труднее и больше требуютъ неустрашимости, распорядительности и решимости, нежели большия, такъ называемыя генеральныя баталии. Во всю жизнь мою, какъ прежде, такъ и после, не испыталъ я такой опасности и трудности, какъ въ сей день при столь маломъ отряде войскъ. Съ семи часовъ утра до трехъ пополудни находился я безпрестанно не только подъ ружейными, но даже подъ пистолетными выстрелами, не говоря уже о каменьяхъ, которыми неприятели метали въ насъ, откуда могли. Я потерялъ въ сие время убитыми и ранеными при двухъ моихъ пушкахъ три комплекта людей. Всякий разъ, когда оставалось у меня не более половины оныхъ, посылалъ я казаковъ, данныхъ мне для извещения требовать подкрепления, и всякий разъ присылали мне такое отъ другихъ артиллерийскихъ ротъ. Подо мной убили двухъ лошадей, а третья была ранена. Итакъ я, утомленный сражениемъ, зашибленный во многихъ местахъ камнями и отъ падения лошадей, изнуренный голодомъ и жаждой, въ превеликий жаръ, едва могъ тащиться пешкомъ, отступая изъ предместия.

Генералъ-поручикъ Кнорригъ, стоя на горе, издалека меня увидалъ и послалъ сказать, чтобъ я пришелъ къ нему. Но я такъ ослабъ, что не могъ взойти на гору, и онъ послалъ ко мне для того свою лошадь.

По прибытии къ нему, тотчасъ началъ я жаловаться на техъ, которые не исполнили своего дела, въ особенности же на полковника Миллера. Притомъ я прибавилъ, что если бы не помощь капитана Гедеонова, то я непременно долженъ бы былъ остаться въ рукахъ неприятеля съ моими пушками. «Что делать? – отвечалъ онъ мне. - Вы исполнили свой долгъ, какъ неустрашимый, храбрый и расторопный офицеръ». При семъ слове подошелъ ко мне генералъ Ланской, сказавъ: «Пойдемъ и отдохнемъ, любезный другъ». Онъ привелъ меня въ одну лощину, где сели мы съ нимъ и еще несколько особъ на траве, выпили водки и съели по куску. Но я чувствовалъ сильную жажду, онъ подалъ мне большой стаканъ вина. Я, не разсматривая, что въ стакане, выпилъ весь, отчего заснулъ крепкимъ сномъ тутъ же, где сиделъ. Я спалъ несколько часовъ и разбуженъ былъ сильнымъ топотомъ лошадей. Открывъ глаза, увидалъ я моего гусара съ двумя верховыми лошадьми. «Где же генералъ и войско?» – спросилъ я. «Все пошли назадъ, а здесь никого нетъ», – сказалъ онъ. Тутъ селъ я на лошадь и поскакалъ догонять мою роту. Лагерь былъ поставленъ несколько подалее прежняго, палатка моя была уже готова, и я пошелъ в оную, какъ для распоряжений после таковаго дела, такъ и для отдохновения. Итакъ все сие довольно кровопролитное и опасное для небольшого корпуса войскъ дело кончилось только приобретением отъ неприятеля восьми пушекъ. А ретраншементъ былъ нами оставленъ. Поляки опять заняли его, исправили и вооружили другими пушками.

Въ семъ месте простояли мы двенадцать дней; между темъ присоединились къ намъ отряды генералъ-майоровъ Германа и князя Цицианова. После такого увеличения силъ, сделанъ былъ новый планъ къ осаде Вильны, согласно во всемъ преподанному отъ генералъ-майора Германа.

Одинъ отрядъ изъ 5 полковъ пехоты, состоящий подъ начальствомъ бригадира князя Трубецкага, долженъ былъ съ разсветомъ дня произвесть фальшивую атаку на оставленный нами и снова занятый неприятелемъ ретраншементъ. Мы же за несколько часовъ прежде сего действия, то-есть, по пробитии вечерней зари, оставя на местахъ разоженые огни, пошли со всеми остальными войсками, тремя колоннами влево. Намъ надлежало сделать четыре мили и, придя между дорогъ, ведущихъ къ Трокамъ и Гродно, напасть на находившуюся тамъ часть ретраншемента. Мы считали ее слабее прочихъ. Она отделена была отъ взятой нами съ правой стороны крутыми обрывами, или буераками, простирающимися на разстояние дальняго пушечнаго выстрела.

Мы подошли къ оному на разсвете, и гренадеры наши, отряженные на штурмъ, встретили вместо ретраншемента только одинъ ложементъ, родъ траншеи, или рва, изъ котораго земля выкинута на наружную сторону и сверху оной положено по одной фашине. Въ семъ рве было три тысячи неприятельской пехоты и шесть пушекъ. Этотъ ложементъ начинался близъ помянутыхъ мною обрывовъ и, проходя по высоте, именуемой Буафоловская гора, оканчивался на оной тамъ, где гора сия примыкала къ песчаной равнине, которая тянулась до публичнаго загороднаго дома, именуемого Погулянка, и до берега реки Вильны.

Неприятель не ожидалъ съ сей стороны нападения и находился въ довольной оплошности, такъ что гренадеры наши открыты имъ были только за несколько шаговъ. Однакожъ они успели сделать залпъ изъ ружей и пушекъ. Потомъ, бросивъ свое укрепление и пушки, они спустились съ горы и стали въ линию на помянутой равнине, отойдя отъ горы не далее пушечнаго выстрела.

Въ самое сие время приехалъ ко мне адъютантъ отъ генерала съ повелениемъ, чтобъ я, наискорее перейдя ложементъ, поставилъ пушки свои на Буафоловской горе и обратилъ ихъ противъ неприятельской линии пехоты. Лишь только успелъ я занять показанное место, какъ увидалъ, что генералъ-майоръ Бенингсенъ устроилъ подъ самой горой, на которой я стоялъ, три полка конныхъ, а именно: драгунский, карабинерный и легкоконный полкъ. Онъ приготовилъ ихъ къ атаке неприятельской пехоты и сделалъ напередъ следующее распоряжение. Одинъ полкъ казаковъ послалъ онъ вправо, дабы отрезать неприятелю дорогу къ Вильне, а другой влево для пресечения гродненской дороги. Тремъ же полкамъ регулярной конницы онъ велелъ выслать впередъ по два ряда отъ каждаго взвода, которые и составили впереди довольно густую цепь, или лучше сказать, линию фланкеровъ... По данному знаку поехали они рысью къ неприятельской пехоте, державшей заряженныя ружья на прикладе. Подступивъ такимъ образомъ довольно близко, начали они стрелять въ линию изъ карабиновъ и пистолетовъ; между темъ линия конницы приближалась къ своимъ фланкерамъ. Поляки недолго выдержали сей огонь и вместо того, чтобы противъ конныхъ выслать пешихъ стрелковъ, сделали залпъ. Бенингсенъ въ тоже мгновение приказалъ, какъ фланкерамъ, такъ и всей линии, ударить на неприятеля въ сабли. Поляки не успели еще зарядить ружей, какъ были совершенно опрокинуты; онъ проскакалъ такимъ образомъ почти до берега реки, где, поворотясь, довершилъ поражение неприятелю, напавъ съ тылу. Итакъ весь сей неприятельский отрядъ изъ трехъ тысячъ, исключая раненыхъ и взятыхъ въ пленъ, погибъ до последняго человека не более, какъ въ пять минутъ.

Остатокъ дня проводили мы въ бомбардировании города, на что неприятель ответствовалъ намъ весьма слабымъ огнемъ.

Между темъ пошелъ довольно сильный дождь и весь мой отрядъ, кроме часовыхъ, расположился въ оставленныхъ поляками шалашахъ или баракахъ. Около полуночи услышалъ я незнакомый голосъ, зовущий по имени. «Здесь»! - отвечалъ я ему. Но онъ, не подъезжая ко мне, сказалъ: «Генералъ приказалъ сказать вамъ, чтобы вы не смели делать ни одного выстрела съ вашей батареи, потому что идутъ переговоры о сдаче города». На следующий день удостоверился я отъ приехавшихъ ко мне офицеровъ въ истине словъ посланнаго.

Ночью польский гарнизонъ и все военные люди, тамъ находившиеся, съ артиллериею и экипажами выбрались изъ города чрезъ такъ называемый запасный мостъ на противный берегъ реки Вилии и пошли далее. Жители города вспомнили о генерале Елинскомъ, который сиделъ въ заключении за ослушанье генерала Костюшки. Они освободили его изъ заключения и просили, чтобъ онъ, взявъ съ собою городскихъ трубачей и некоторыхъ членовъ ратуши, выехалъ для переговоровъ съ русскими о сдаче города.

Генерал-поручикъ Кнорригъ, съ прочими генералами, со мною, съ некоторыми другими штабъ-офицерами и своимъ штатомъ поехалъ по дороге къ той памятной для меня Острой Браме. При въезде въ предместие встречены мы были сперва греко-российскимъ духовенствомъ, а за онымъ следовало римско-католическое. Жиды стояли по одну сторону дороги, крича: «Ура!», а поляки – по другую на коленяхъ.

# Амністыя да поўнага вынішчэння памілаваных





***У распараджэнні рэдакцыі «Новай газеты» апынуўся сенсацыйны відэазапіс - на ім баевікі, амніставаныя пры выхадзе з аточанага сяла Камсамольскага. І іхны лёс***

На другой чачэнскай вайне шмат home video. На працягу ўсіх гэтых гадоў яго здымалі абодва варагуючыя бакі, фіксуючы на камеру сябе, любімых, у інтэр'ерах зробленага. Так атрымалася даволі ёмістая фільматэка «антытэрарыстычнай аперацыі», зробленая яе ўдзельнікамі. Па сутнасці – рэчавы доказ, большай часткай там зафіксаваны моманты здзяйснення ваенных злачынстваў. Час ад часу гэтыя відэафакты ўсплываюць з андэграўнда і становяцца вядомымя грамадству. На плёнцы, кадры якой мы публікуем, знята перагрузка ў таварняк з двух аўтазакаў 72 баевікоў, якія ваявалі ў сяле Камсамольскім Урус-Мартанаўскага раёна ў лютым–сакавіку 2000 года, здаліся ў палон і былі амніставаныя.

Гісторыя гэтых 72 амніставаных наступная. Штурм Камсамольскага – другая па маштабах, пасля асады Грознага зімой 1999–2000 гадоў, вайсковая аперацыя цяперашняй вайны. Тады, адступаючы з Грознага, палявы камандзір Руслан Гелаеў (яго цела было знойдзена ў дагестанскіх гарах зусім нядаўна, напярэдадні другіх выбараў Пуціна) прывёз сюды, у сваё роднае сяло, болей чым паўтаратысячны атрад. І пачалася жорсткая асада з прымяненнем усіх відаў баявой тэхнікі. Калі сяло было ўжо амаль цалкам змецена з твару зямлі, а Гелаеў і частка яговых байцоў незразумелым да сённяшняга чынам пакінулі Камсамольскае скрозь некалькі кругоў атачэння, тым, хто яшчэ супраціўляўся, федэралы праз мегафоны прапанавалі здацца, паабяцаўшы амністыю.

72 чалавекі, як афіцыйна заявіла камандаванне ў сакавіку 2000 года, так і зрабілі, атрымаўшы амністыю федэральнага ўраду. (Тое, што на плёнцы менавіта гэтыя амніставаныя, адпавядае і запэўніванням ваеннага, які перадаў плёнку, і вынікам нашага ўласнага расследавання, заснаванага на апытаннях сваякоў і сяброў амніставаных, якія на гэты момант пазналі трох «сваіх»; і яны чулі, што ў 2000 годзе тыя скарысталіся амністыяй, але дадому дасюль не вярнуліся).

Такім чынам, што было з амніставанымі далей, пасля таго, як яны здаліся, – гэтае пытанне не мае дакладнага адказу. Вядома, што найперш усіх – і амніставаных, і ўзятых у палон у Камсамольскім – адправілі ў Чарнакозава, у СІЗО. Як сведчаць іншыя вязні, якія знаходзіліся там у той жа час і якія здолелі выжыць, па начах іх выбарачна выганялі грузіць у аўтазакі мёртвых баевікоў з Камсамольскага.

Чаму яны паміралі – ніхто зэкам не тлумачыў, але самі яны тое-сёе прыкмячалі і шмат аб чым здагадваліся: баевікоў дапытвалі ўжо ў Чарнакозаве, бо грузіць зэкам даводзілася цёплыя, яшчэ не астылыя трупы са слядамі свежых тупых udараў як бы ад сапёрных рыдлёвак ці проста гаспадарчых рыдлёвак. Пасля трупы кудысьці вывозілі.

Гэтыя былыя чарнакозаўскія зэкі казалі, што ім невядома: ці былі гэта амніставаныя ці палонныя баевікі? Ім не тлумачылі, ды ніхто і не пытаўся. Але што ім вядома – дакументацыя трупаў, якіх вывозілі з СІЗО, не вялася.

Сёння, у красавіку 2004 года, сем'ям вядомы лёс толькі трох з 72 амніставаных. Частка лічыцца зніклымі без вестак, у тым ліку па спісах праваабарончага цэнтра «Мемарыял». Бальшыня згінула, і нават родныя не шукаюць іх. Значыць, на плёнцы, магчыма, засведчаны іх самы апошні след на зямлі.

Дык вось, гэта станцыя Чарвлёная, перагрузка амніставаных у таварныя вагоны з аўтазакаў з літарамі «МЮ» (міністэрства юстыцыі) па баках. Чалавек, які здымае, – адзін з малодшых афіцэраў спецназу МЮ, які ахоўваў працэдуру...

Калі што і нагадвае гэтае відэа, дык толькі адно – мастацкі фільм аб фашысцкім канцлагеры. Іншых асацыяцый не ўзнікае. Так вядуць сябе людзі з аўтаматамі напагатове, рассыроджаныя па ўзгорку, унізе якога – чыгуначная каляіна, дзе стаіць вагон. Гэтак жа – тыя, у каго яны мецяць. Сярод баевікоў – дзве жанчыны, яны ў адзенні, не збітыя ў адрозненне ад мужчын, іх адразу адводзяць некуды ў бок.

Астатнія – мужчыны і падлеткі. У аўтазаках яны відочна былі, як селядцы ў бочцы, 74 чалавекі (потым, калі перагрузка скончыцца, ваенныя абмяркуюць гэта за кадрам паміж сабой, што «казалі 72, а тут 74») – на два аўтазакі.

Большая частка хоць і выскоквае з машын самастойна, але знаходзіцца ў цяжкім фізічным стане, некаторых выносяць таварышы. Амаль усе параненыя, ёсць без ног, рук, адзін – з адрэзаным вухам, якое боўтаецц, (ваенныя каментуюць: «бачыш, вуха недарэзалі»). Шмат хто – цалкам голыя, босыя і ў крыві. Вопратку і абутак выкідаюць з машын асобна. Прыкметна, што людзі моцна знясіленыя.

Сярод баевікоў ёсць такія, хто яўна не разумее, чаго ад іх хочуць – кудысьці рухаюцца ў самнабулічным стане. Ёсць звар'яцелыя. Б'юць не моцна. Ніякіх «людзей у белых халатах» не прыкметна. Баевікам загадваюць цягнуць з машын памерлых у часе транспарціроўкі і адносіць убок. Утвараецца гара трупаў ля чыгуначнага палатна.

Калі глядзіш на гэтыя кадры, цалкам забываеш, што гэта амніставаныя – гэта значыць памілаваныя ад імя дзяржавы, ураўнаваныя з іншымі грамадзянамі ў правах...

Кідаецца ў вочы дэталь – федэралы не дакранаюцца да іх рукамі. Наогул. Толькі ботамі і ствааламі аўтаматаў. Грэбуюць. Твары мёртвых паварочваюць да сябе таксама наскамі армейскіх пабботаў. Здаецца, што проста з цікаўнасці - ніхто нічога не запісвае, не фіксуе, не актуе смерць, ніякія дакументы ваенныя адзін аднаму не перадаюць, не чуваць размовы пра гэта – хоць рэплікі за кадрам добра чутныя...

Гара хаатычна зваленых трупаў на насыпе, якую доўга трымае камера ў фінале, таксама стылістычна вытрымана ў духу кіно аб жахах фашызму. Аднак гэта – наш час. І ўсё адбываецца з нашымі сучаснікамі – і тымі, і гэтымі, ніхто з якіх не служыў у Гітлера, а бальшыня хадзілі ў школы з адной праграмай.

А цяпер пра тое, чаму мы ўсё гэта публікуем. Найперш за ўсё, каб свае пазналі сваіх.

Як плёнка з таямнічай стала грамадскі вядомая? Як вядома, пакутуюць пасля звырыных войнаў усе – і тыя, хто мардаваў, і тыя, каго мардавалі. Калі, канечне, выжываюць. Маладому афіцэру з камерай у руках тады было цікава і камфортна на станцыі Чарвлёная. Дома, «у Расеі», яму таксама было весела паказваць «кіно пра Чачню» сваякам і сябрам... Але прайшоў час, ён працвеўразеў і жахнуўся сам сябе – і знаходзіцца ў гэтым унутраным кашмары да гэтага дня.

Аддаць плёнку ў СМІ дзеля абнародавання – яго ідэя. Ён лічыць, што скіне ярмо, пад прыгнётам якога існуе «пасля Чачні», і гэта дапаможа яму выжыць

Хто ведае. А раптам?..

**Ганна ПАЛІТКОЎСКАЯ**
**«Новая газета»**









# Мадам Батэрфляй помсціць па-японску

Змест знакамітай оперы Джакома Пучыні «Мадам Батэрфляй», якая апавядае пра амерыканскага марака, што спакусіў чыстую дзяўчыну з Нагасакі, а яна з-за яго віны мусіла скончыць жыццё самагубствам, ужо даўно раздражняе японцаў. Найбольш зацятыя праціўнікі гэтага «ганебнага» сюжэта нават спрабуюць яго змяніць.



«Бальшыня японцаў адчуваюць сябе абражанымі і адчуваюць нянавісць да галоўнага героя оперы Пінкертона, які пакінуў сваю каханую Чыа-Чыа-Сан з немаўляткам на руках у той дзень, калі яны павінны былі пабрацца шлюбам», – гаворыць прадзюсер Хіраюкі Судзукі, які вырашыў змяніць сюжэт оперы.

На гэтую працу Судзукі натхніла ягоная жонка, сусветна вядомая мастачка-мадэльер Дзюнка Касіна. «Яна стварыла касцюмы для чарговай пастаноўкі «Мадам Батэрфляй» у ліпені 2002 года, – апавядае Судзукі. – Калі я глядзеў пастаноўку, я адчуваў глыбокі боль, паколькі опера заканчваецца смерцю японскай жанчыны. І ў мяне ўзнікла моцнае жаданне «адпомсціць» амерыканцу за няшчасную».

«Помста» Судзукі набыла форму неафіцыйнага працягу сюжэта «Мадам Батэрфляй», які ён напісаў напрыканцы 2002 года.

Спробы скарэктаваць сюжэт гэтай оперы прадпрымаюцца ў Японіі далёка не ўпершыню. Масахіка Сімада напісала праціг оперы пад назвай «Малодшая Батэрфляй», у якім апавядаецца пра лёс сына Чыа-Чыа-Сан і Пінкертона. Згодна з сюжэтам Сімады, марак Пінкертон забірае сына ў Амерыку, дзе той гадуецца і атрымоўвае адукацыю, але ў 1941 годзе прыязджае ў Японію і жэніцца з японскай дзяўчынай, якая гіне ад выбуху атамнай бомбы, скінутай амерыканцамі на Нагасакі 9 жніўня 1945 года.

Судзукі яшчэ больш жахліва помсціць нягодніку Пінкертону ў сваім сюжэце, які атрымаў назву «Юкі і Марыя». Згодна з ягонай версіяй, Юкі, сын Пінкертона і Чыа-Чыа-Сан, застаецца ў Японіі і выхоўваецца служанкай Чыа-Чыа-Сан, якая мае імя Судзукі.

Аднойчы малады Юкі вырашыў выправіцца ў падарожжа ў Злучаныя Штаты. На караблі ён знаёміцца з амерыканскай дзяўчынай Марыяй, якая ў яго адразу закахалася.

Аднак Марыя аказваецца дачкой Пінкертона і ягонай амерыканскай жонкі, іншымі словамі, зводнай сястрой Юкі.

Пінкертон усяляк супраціўляецца сувязі дачкі з Юкі. І аднойчы ў стане раз'юшанасці ён выхоплівае рэвальвер і забівае Юкі, бо Марыя вырашыла пайсці супраць волі бацькі і абвясціла пра свой намер стаць жонкай Юкі і паехаць з ім у Японію. Хутка Пінкертон даведваецца, што забіў уласнага сына. Не вытрываўшы пакутаў сумлення, ён канчае жыццё самазабойствам.

Сюжэт «Юкі і Марыі» ўжо перакладзены на англійскую і італьянскую мовы і атрымаў высокую ўхвалу Фонду Пучыні – арганізацыі, якая кіруе спадчынай вялікага італьянскага кампазітара.

«Я спадзяюся, што Фонд здолее зрабіць высакаякасную апрацоўку тэксту для опернага лібрэта, – гаворыць Судзукі. – Магчыма, усе мы станем сведкамі свайго роду спаборніцтва, калі з'явіцца «другі Пучыні» і напіша новую оперу».

*Daily News*

# Салдаты ўдачы 2004

Ім не падабаецца, калі іх называюць наймітамі. Шчыра кажучы, ніводзін з тых наймітаў, з якімі я пазнаёміўся, пачынаючы з В'етнама і заканчваючы афрыканскімі войнамі, за выключэннем толькі некаторых цынікаў, – не лічыў сябе салдатам удачы. У часе в'етнаскай вайны я ведаў наймітаў мексіканцаў, выхадцаў з астравоў Карыбскага басейну і нават некаторых іспанцаў: усе яны атрымалі прыстойныя грошы, а па заканчэнні службы яшчэ і амерыканскае грамадзянства. Увесь гэты час шукальнікі прыгод сілкаваліся чытвом з амерыканскага штомесячнага часопіса «Soldiers of Fortune», які стаў іх Бібліяй і ператварыўся ў пункт па вярбоўцы валанцёраў.



З таямнічых рэкламных абвестак аматары вострых адчуванняў даведваліся аб магчымасці вырушыць ваяваць у Конга ці ў Радэзію. Ганарары паступалі на асабістыя рахункі, адкрытыя гэтымі псамі вайны ў якім-небудзь швейцарскім банку, а калі з нейкай прычыны прадпрыемства правальвалася, яны пераставалі страляць – чакалі наступнага зручнага для іх выпадку.

Гэта былі залатыя часы для Майка Хаара, па мянушцы «Вар'ят», які ваяваў у Катанзе, ці Боба Дэнарда, які яшчэ зусім нядаўна ўдзельнічаў у арганізацыі дзяржаўнага перавароту на Каморскіх выспах. Час ад часу, у Мадрыдзе, у таверне на вуліцы Уркіхо я сустракаўся за бутэлькай віна з бельгійскімі наймітамі, якія ахоўвалі эфемернага караля Катангі Маіза Чомбе.

У іракскай вайне ўсе гэтыя былыя салдаты спецпадраздзяленняў, байцы Французскага легіёна ці былыя парашутысты атрымоўваюць свае звонкія манеты наяўнымі – тысяча еўра на дзень. Як і заўжды сярод першых аказваюцца брытанцы, якія запісваюцца ў падраздзяленні SAS: іх болей прыцягваюць прыгоды і вялікія грошы, чым казармавая руціна. Тут жа непальскія гуркі, якія лічацца лепшымі салдатамі ў свеце. Амерыканскія рэйнджэры ці ізраільцяне, загартаваныя ў войнах з арабамі. Харваты і аўстрыйцы.

Яны пачалі дапамагаць прафесіяналам са спецслужбаў бяспекі яшчэ ў часы прэзідэнта Клінтана: выкарыстоўваць наймітаў было выгадней. Але найбольш гэты рынак пачаў квітнець пры ўладаранні Буша, калі салдатам удачы даручылі ахову пасольстваў. І калі для ісламістаў святая вайна ў Іраку стала Мекай, дык для наймітаў яна ператварылася ў сапраўдны Эльдарада. Прабіў час росквіту гандлю бяспекай. Сам праконсул Злучаных Штатаў у Іраку Пол Брэмер жыве пад абаронай целаахоўнікаў з гэтай прыватызаванай арміі, якая складаецца з тых, хто, магчыма, прайшоў Калумбію і Алжыр, Філіпіны ці Косава. Яны гандлююць бяспекай і вылучаюцца сярод натоўпу дзякуючы высокаму росту, цёмным акулярам, бронежылетам Kevlar, аўтаматычнай вінтоўцы з лазерным прыцэлам M4 (натаўскае ўзбраенне), пісталету «Бярэта» (як у Джэймса Бонда) і кароткахвалевым радыёстанцыям.

Чацвёра спаленых кантрактнікаў, якіх натоўп іракцаў працягнуў па вуліцах Фалуджы, насамрэч былі «corporate warriors», у літаральным перакладзе «карпаратыўныя ваяры», кампаніі «Blackwater». У Эн-Наджафе яны плячо да пляча з амерыканскай пяхотай абаранялі будынак мясцовай адміністрацыі. Якая розніца паміж салдатамі ўдачы ранейшых гадоў і гэтымі новымі прафесіяналамі-ахоўнікамі. Кампаніі, накшталт «Blackwater» і «DynCorp», не прымаюць на працу шукальнікаў прыгод ці наймітаў, гатовых прыняць удзел у правядзенні якога-небудзь дзяржаўнага перавароту. Ім патрэбны людзі з цвярозым розумам, якія навучаны карыстацца дасягненнямі сучаснай тэхналогіі, спецыялісты па вывучэнні абстаноўкі, якія ўдзельнічалі ў міжнародных місіях ва ўсіх «гарачых пунктах» планеты. Сёння ў Іраку іх каля 20.000, а калі ў краіне ўсё застанецца па-ранейшаму, – будзе яшчэ болей.

Наёмныя салдаты атрымоўваюць у два-тры разы болей, чым рэгулярная армія, усе яны імкнуцца ў Афганістан, дзе ганарары болей у пяць разоў. Няўжо мы ідзем да прыватнай наёмнай арміі? Не, але служба прэтарыянцаў з кожным разам становіцца ўсё больш прыкметная. Яны будуць абараняць транспарт, які перавозіць паліва, супрацоўнікаў замежных кампаній ці высокапастаўленых чыноўнікаў. Яны ўзаконілі сваё становішча.

**«La Verdad»** *(Іспанія)*

# Чаму баліць душа?

Душэўны боль якім-небудзь чынам адхіленага грамадствам чалавека ўспрымаецца мозгам гэтак жа, як і боль фізічны. На думку каліфарнійскіх даследнікаў, гэты механізм усталяваўся эвалюцыйна і вымушае чалавека жыць у грамадстве і пакутваць з-за парушаных сацыяльных кантактаў. Дзякуючы гэтаму людзі навучыліся выжываць не ў адзіночку, а групамі.

Вучоныя з Універсітэта Каліфорніі ў Лос-Анджэлесе пад кіраўніцтвам Наомі Эйзенбергер праверылі сваю гіпотэзу ў эксперыменце. Добраахвотнікі гулялі ў камп'ютэрную гульню, маючы ўпэўненасць, што ў ёй прымаюць удзел тры чалавекі. На пэўным этапе аказвалася, што два іншых гульцы ігнаруюць удзельніка, выключаючы яго з гульні. Пры гэтым рэгістравалася актыўнасць галаўнога мозгу.

Калі чалавек разумеў, што яго адхілілі, рэгістравалася рэакцыя ў пярэдняй паяснай кары – участку галаўнога мозгу, які адказвае і за ўспрыняцце фізічнага болю. Па словах Эйзенбергер, дадзеныя даследавання даюць падставы меркаваць, што сацыяльнае выключэнне любога віду, напрыклад, развод ці адмова прыйсці на спатканне, суправаджаецца болевай рэакцыяй у пярэдняй паяснай звіліне.

На думку вучоных, успрыняцце адзіноты як фізічнага болю з'явілася як абаронная рэакцыя. «Паколькі перыяд дзяцінства, калі чалавеку патрэбны клопат, цягнецца вельмі доўга, важна заставацца ў сацыяльнай групе. Інакш мы не выжывем, – кажа Эйзенбергер. – Гіпотэза палягае на тым, што сістэма прылучанасці да грамадства, якая ўтрымлівае чалавека ў групе, узаемадзейнічае з болевай сістэмай дзеля выжывання віду».

# Формула сямейных разводаў

Матэматычная мадэль, якую распрацавала каманда даследчыкаў (спецыяліст па псіхалогіі і два прыкладныя матэматыкі), дазваляе з 94-працэнтнай дакладнасцю прагназаваць, якія шлюбныя пары застануцца разам, а якія расстануцца.

Джон Готман, псіхолаг Вашынгтонскага універсітэта ў горадзе Сіэтл, гаворыць, што набор ураўненняў можа даваць прагноз пра ўдачу ці няўдачу шлюбу. Дастаткова толькі некалькі хвілінаў паназіраць за тым, як партнёры абмяркоўваюць спрэчнае пытанне, якое датычыць, прыкладам, сэксу, грошай, выхавання дзіцяці ці паездкі на адпачынак. За станоўчыя ці адмоўныя сігналы паміж партнёрамі ў часе размовы налічваюцца балы, і суадносіны гэтых балаў, наколькі можна меркаваць, маюць вялікую важнасць для адказу на пытанне, будзе шлюб моцны ці не.

Жарты, какетлівыя і нежныя жэсты, усмешкі і душэўная інтанацыя з'яўляюцца станоўчымі сігналамі, у той час як да адмоўных сігналаў адносяцца закатванне зрэнкаў, сарказм, іронія і інш. Ідэальныя суадносіны – гэта пяць станоўчых сігналаў супраць аднаго адмоўнага, і не выключана, што любой пары, якая не дацягвае да гэтых лічбаў, пагражаюць сямейныя непрыемнасці.

«Калі гэтай мадэлі яшчэ не было, нельга было дакладна прадказаць магчымасць разводу сужонцаў, і мы не мелі паняцця, як праводзіць аналіз тых пар, якія доўга і шчасліва жывуць разам, і тых, якія развяліся, – гаворыць Готман. – Калі першыя гавораць аб важных з'явах, яны, магчыма, і спрачаюцца, але адначасна яны смяюцца і дражняць адзін аднаго і навідавоку ўсе прыкметы прыхільнасці, бо партнёры ўсталявалі эмацыянальныя сувязі. Аднак шмат людзей не ведаюць, як правільна кантактаваць адзін з адным, і гэта азначае, што шмат якія спрэчкі сужонцаў адбываюцца з-за няздольнасці ўсталяваць эмацыянальныя сувязі. Без матэматычнай мадэлі мы б гэтага не ведалі. Яна дае ўнікальную магчымасць апісаць узаемаадносіны людзей і тыя сілы, якія імі рухаюць. Матэматыка відочна дэманструе нам, што адбываецца, калі два чалавекі гавораць адзін з адным».

У даследаванні, на якім базуецца мадэль, удзельнічалі 700 маладых сем'яў з Сіэтла, за якімі пачалі назіраць неўзабаве пасля вяселля і працягвалі назіранні на працягу наступных 10 гадоў. Удзельнікам эксперыменту аб яго выніках і прагнозах паведамляць не сталі, каб не правакаваць лёс.



 



# Спорт прыгажунь

***На пачатку красавіка ў Мінску адбыўся чэмпіянат рэспублікі па сінхронным плаванні. Наступнае выступленне некаторых яго ўдзельніц – Алімпіяда ў Афінах.***



Майстар спорту міжнароднага класа, удзельніца Алімпійскіх гульняў у Сіднеі 2000 года, трэнер Наталля Сахарук (у цэнтры) са сваімі выхаванкамі маладзёвай зборнай Беларусі па сінхронным плаванні

Цвікам праграмы чэмпіяната было выступленне алімпійскага дуэта нацыянальнай зборнай Крысціны Марковіч (25 год) і Анастасіі Уласенка (24 гады). Дзяўчаты займаюцца сінхронным плаваннем ужо дзесяць гадоў. За гэты час яны не толькі дасягнулі значных вышыняў у спорце, але паспелі атрымаць вышэйшую адукацыю і выйсці замуж, таксама «сінхронна», амаль у адзін час. Наста па спецыяльнасці эканаміст, Крысціна – трэнер. «Вада ў басейне вельмі халодная, да таго ж скразнякі. Пры трэніроўках два разы на дзень ёсць сур'ёзная небяспека захварэць,» - кажа Крысціна. Каб захаваць здароўе ў дзяўчат ёсць свае сакрэты, якія ім дапамагаюць. На выступленнях трэба клапаціцца не толькі пра ўнутраны стан, але таксама і пра эфектную знешнасць. Напрыклад, для таго, каб прычоска трымалася ў вадзе, дзяўчаты замазваюць валасы жэлацінам.

**– Як вашыя мужы стаяцца да заняткаў спортам?**

– Староўча пакуль што. У мяне муж спартсмен.

– А ў мяне не спартсмен, і ён спадзяецца, што калі-небудзь усё гэта скончыцца.

**– Сінхроннае плаванне – гэта спорт, якім можна займацца даволі доўга.**

– Гадоў да 30, пакуль ёсць сілы. Са здароўем, канешне, часам бываюць праблемы.

**– Што яшчэ трэба, акрамя ўмення трымацца на вадзе?**

– Мы займаемся плаваннем, акрабатыкай, трэніроўкай дыхання. Трэба мець усебаковае развіццё, каб займацца гэтым спортам.

**– Ці атрымліваеце вы задавальненне ад трэніровак і выступленняў?**

– Канешне, атрымліваем. Прыемна, калі выпадае атрымаць узнагароду ці медаль.

**– Ці адрозніваюцца нашыя каманды па ўзроўні ад замежных?**

– Я лічу, што за апошнія чатыры гады мы значна падвысілі сваю тэхніку. Гэта нягледзячы на тое, што ўмовы ў нас значна горшыя, чым у іншых краінах. Нават таго ж падводнага дынаміка – прыстасаванне, каб чуць музыку пад вадой, мы не маем. У нас па-ранейшаму трэнер выстуквае рытм палкай аб басейн. Калі прыязджаем у іншую краіну і пачынаем плаваць у абсталяваным басейне, адразу атрымліваем шок.

**– Ці дапамагае спорт адбыцца ў жыцці?**

– Канешне, дапамагае, выхоўвае, кшталтуе. Мы ў свой час усё паспявалі - і на трэніроўкі хадзіць, і добра вучыцца. Практычна ўсе дзеці з юнацкай зборнай у камандзе выдатніцы. У вучэльні алімпійскага рэзерву вельмі хваляць аддзяленне сінхроннага плавання, бо ўсе вельмі добра вучацца.

**– Падчас выступленняў на вашых тварах ёсць усмешка. Гэта стварае ўражанне, што ўсё вельмі проста і лёгка. Ці так гэта на самой справе?**

– На самой справе гэта даволі складана, усмешка напрацоўваецца. Напрыклад, дзеці не могуць усміхацца, ім цяжка, і яны паказваюць гэта, не могуць хаваць. А мы ўжо навучыліся гэтай лёгкасці.

**– Ці дадае ўсмешка балаў?**

- Канешне. Гэта называецца «адзнака за мастацкае ўражанне». Суддзям больш прыемна глядзець на такія твары, чым на незразумелую міміку.

**– Ці ёсць у вас прыхільнікі, фанаты?**

– Нашыя спаборніцтвы не вельмі наведваюць. Самыя гарачыя нашыя прыхільнікі гэта нашыя мужы.

Нядаўна дзяўчаты мелі магчымаць трэніравацца на сумесным зборы з расійскім трэнерам. Гэта дапамагло нашым спартсменкам удасканаліць праграму, улічыць новыя тэндэнцыі, якія ўзнікаюць у свеце. Напрыклад, зараз як ніколі ў выступленнях адзначаецца хуткасць.

Гэтым разам у Федэрацыі сінхроннага плавання для чэмпіянату хапіла грошай толькі на 6 дарожак басейна БНТУ. Спаборніцтвы праходзілі ў «абмежаванай прасторы». На астатніх чатырох сцежках трэніраваліся дзеці, студэнты і бабулькі ў каляровых капялюшыках ...

На думку старшыні федэрацыі Людмілы Сянько, гэта яшчэ не самы горшы варыянт. Бо былі сітуацыі, калі нацыянальная зборная заставалася ўвогуле без месца для трэніровак. «Пра свой басейн мы пакуль толькі марым», – кажа Людміла Уладзіміраўна.

Распавядае Людміла Сянько, галоўны трэнер нацыянальнай каманды Рэспублікі Беларусь па сінхронным плаванні, старшыня грамадскага аб'яднання «Беларуская федэрацыя сінхроннага плавання».

**– У камандзе вельмі цудоўная атмасфера, і гэта адразу бачна. Як атрымліваецца стварыць такі дух падтрымкі, а не суперніцтва?**

– Гэта камандны від спорта, але такое паразуменне дасягаецца няпроста. Мы тлумачым, што калі дзяўчаты выступаюць з солапраграмай – яны супернікі. А калі выступае каманда – яны непадзельнае цэлае. Таму не можа быць ніякіх крыўдаў.

**– На мінулай Алімпіядзе ў Сіднеі нашая каманда заняла 19 месца. Ці падвысіўся наш узровень да сёлетняй Алімпіяды?**

– Канешне, наш узровень падняўся, але і ў сусвеце ўзровень таксама падняўся. Тым не менш, мы сталі нашмат мацнейшыя, хоць усе гэтыя гады працаваць было даволі складана. У нас няма сваёй базы, і ўвогуле шмат чаго яшчэ няма. Няма сродкаў, каб арандаваць басейн. Але мы неяк выжываем дзякуючы прафсаюзам, міністэрству, дзякуючы бацькоўскаму камітэту.

**– Хто будуць нашыя бліжэйшыя супернікі на Алімпіядзе ў Афінах?**

– Нашая каманда займае сёмае месца ў Еўропе, на мінулым чэмпіянаце свету мы былі 16-я. Прапусцілі Казахстан. Гэта, канешне, не пажадана. Таксама нашымі супернікамі будуць Мексіка, чэхі, яны трэніруюцца ў Амерыцы, англічане.

**– Ці не з'язджаюць нашыя спартсменкі выступаць за зборныя іншых краін?**

– Тыя дзяўчаты, якія ўжо не выступаюць за зборную, з'язджаюць працаваць у шоу ў краіны Сярэдняй Азіі. Сінхроннае плаванне такі спорт, які карыстаецца там вялікай папулярнасцю. Усюды запрашаюць выступаць. Асабліва ў Кітаі, Японіі.

**– Не перашкаджае, што падчас чэмпіянату ў басейне знаходзяцца пабочныя людзі?**

– Канешне, хацелася б арандаваць увесь басейн, але з-за праблемаў фінансавання мы можам сабе дазволіць зняць толькі шэсць дарожак. Яны, канешне, пыталіся, ці можна ім паплаваць...

**– Ці вырашылася як-небудзь сітуацыя з басейнам для трэніровак?**

– Не, ніяк гэтая праблема не вырашылася. Мы ўсё менш і менш арандуем басейн у СК «Лазурны», хоць там базуецца спецыялізаваная дзіцячая школа алімпійскага рэзерву. Зараз усе хочуць зарабіць, усім патрэбныя грошы, а дзяржава столькі грошай на арэнду, колькі нам патрэбна, не дае. Ніякіх ільготаў басейны нам таксама не даюць. Адна дарожка, каб правесці спаборніцтва, каштуе 38 тысяч рублёў за гадзіну. Мы ўзялі 6 дарожак. Гэта ведамасны басейн: не хочаце, не хадзіце. Зараз так. Вялікі дзякуй БНТУ, што нам даюць магчымасць тут правесці спаборніцтвы. Гэта адзіная «вада», якая засталася для нас вельмі добрай базай. Тут даволі глыбока, 8 метраў.

**– На што можа разлічваць наша зборная на Алімпіядзе ў Афінах?**

– Мы маем абавязак, што возьмем ад 13-га да 16-га месца. Але зараз асноўнае для нас гэта трапіць на Алімпіяду, атрымаць ліцэнзію. Тыя, хто былі за намі, таксама не спяць. Нашыя супернікі становяцца ўсё больш падрыхтаваныя.

**Наталля Сахарук, трэнер юнацкай нацыянальнай зборнай па сінхронным плаванні, адна з нямногіх, хто мае дасвед спаборніцтваў на Алімпійскіх гульнях. У 2000 годзе яна выступала на Алімпіядзе ў Сіднеі:**

– Тады мы занялі 19-е месца. Для каманды сінхроннага плавання гэта быў першы ўдзел у алімпійскіх спаборніцтвах. Да гэтага мы прымалі ўдзел у чэмпіянаце Еўропы і свету. Зараз у сінхронным плаванні ёсць яўныя лідэры - расіянкі. Да іх падступіцца практычна ніхто не можа, нават японкі, якія заўсёды ідуць другімі. Затым амерыканкі і канадкі. Расіянкі - фаварыткі ўсюды, а паколькі гэта даволі суб'ектыўны від спорта, суддзі ўжо старыя, ніхто нічога змяняць не збіраецца.

**– Якіх дзяўчынак вы прымаеце ў каманду?**

– Мы набіраем хударлявых дзяўчынак, лёгкіх, каб ім было нескладана падняць сваё цела над вадой. Ад гэтага шмат залежыць, бо чым вышэй цела над вадой, тым вышэй адзнака. Тэхніка выканання напрацоўваецца. Дзеці павінны мець сілу. Прыгожа, калі доўгія ногі, доўгія рукі, калі дзяўчынка артыстычная. Артыстызм можна напрацаваць падчас трэніровак, але ёсць дзеці, якія прыходзяць з прыроднымі дадзенымі. Такім лёгка ставіць праграму. Мы прымаем дзяцей з 7 год. Праграму яны робяць бліжэй да 10. У гэтым узросце яны ўжо ўмеюць трымацца на вадзе, добра плаваць.

**– Здзіўляе не толькі майстэрства, але і знешні выгляд спартсменак. Чаго гэта каштуе?**

– Гэта каштуе шмат. Дзяўчатам прыходзіцца не есці, займацца ў залі, каб трымаць сябе ў форме. Дадаткова трэба займацца харэаграфіяй і акрабатыкай. Знешні выгляд спартсменкі ў вадзе ўплывае на адзнаку суддзі. Усё павінна выглядаць дасканала – і купальнікі, і прычоска. Для маленькіх дзяцей купальнікі шыюць бацькі. На форму алімпійцам некаторыя сродкі выдзяляе Міністэрства спорту і турызму. Нешта набываем за свае грошы.

**– Да якога часу можна выступаць у гэтым відзе спорту?**

– Я думаю, што гэта кожны для сябе вырашае самастойна. Афіцыйных абмежаванняў ва ўзросце няма. Ёсць адна спартсменка ў Грэцыі, ёй ужо 34 гады і яна дагэтуль удзельнічае ў алімпіядах. Гэта жаночы від спорту, а не дзявочы, як гімнастыка. Для больш дарослых жанчын, якія маюць сілы і здароўе. Нагрузка вельмі вялікая. Усё праз слёзы і пот. Знешняе ўражанне лёгкасці падманлівае. Але ёсць плюс, таму што няма рызыкі атрымаць траўму. Вада ўсё злагоджвае. Хоць дзяўчаты вытрымліваюць найвялікшую нагрузку.

Вывезці каманду на спаборніцтвы атрымліваецца не заўсёды. Калі спаборніцтвы адбываюцца недзе далёка, Міністэрства спорту і турызму дае грошы толькі на дуэт. У гэтым годзе чэмпіянат Еўропы адбываецца ў Польшчы і будзе праходзіць з 22 па 25 красавіка, таму мы едзем усе разам. Мінулы раз мы занялі чацвёртае месца. Зараз таксама плануем трапіць у фінал.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

 

Пульс «Eurovision –2004»

# Aleksandra & Konstancin

**«А хто ведае, мо і рэальна, пабачыць на сцэне 12 ды 15 траўня беларуска–мальтыйскую «Abba»?..» – разважаю сама сабе. Якіх толькі думак не набяжыць у галаву пасля пачутага ад беларускай дэлегацыі, якая не так даўно вярнулася са Стамбула.**

Сваім шчырым пачуццём адно да другога (выснова, якую зрабілі еўрапейцы пасля прагляду прадстаўленых матэрыялаў), рамантычнасцю і гармоніяй дуэт «АіК» захапіў не толькі мальтыйскую дэлегацыю, якая і прапанавала аб'яднаць наш ды свой дуэты. Французска-германская тэлекампанія «Arte» просіць дазволу суправаджаць наш гурт штодзень па дзве гадзіны, з мэтай пасля 15 траўня паказаць святочныя будні зорак сваім гледачам. Над гэтай прапановай нашы ўдзельнікі згадзіліся паразважаць.

### Падрыхтоўка

«Мы адчувалі да сябе шмат цікаўнасці і ўвагі, – кажа Аляксандр Капёнкін, намеснік генеральнага прадзюсера Першага нацыянальнага тэлеканала, кіраўнік дэлегацыі. – Магчыма, гэта было выклікана тым, што мы – дэбютанты. Тым не менш, усе неабходныя прома-матэрыялы: гуказапіс, відэакліп, фота, а таксама дамовы і іншыя ў нас прынялі без заўваг. Моцныя разыходжанні ў адзнаках атрымаў «прадукт» з Украіны. Адны прагназавалі вялікі поспех, другія – няўдачу». Дарэчы, на свае вочы пабачыць усе кліпы ўдзельнікаў конкурсу магчыма ў перадачах «Добрай раніцы, Беларусь!» і «Кліп–абойма».

Паводле вынікаў жэраб'ёўкі, якая адбылася ў Стамбуле, беларускія ўдзельнікі «Еўравізіі–2004» у паўфінале 12 траўня будуць выступаць другімі. Звычайна гледачы добра запамінаюць пачатак і заканчэнне. Першаму ж нумару выступаць, сапраўды, складана: публіка яшчэ недастаткова падрыхтавалася. Другому ўжо прасцей. А пры зваротным праглядзе, непасрэдна перад самім галасаваннем, перадапошнімі пакажуць якраз «АіК». Нельга забыцца і на тое, што, выступаючы другімі ў Нацыянальным конкурсе, Аляксандры ды Канстанціну пашчасціла на перамогу. Таму сваім другім месцам дуэт больш чым задаволены. «А вось удзельнікі дэлегацый некаторых краінаў вынікі жэраб'ёўкі не супраць былі і «перайграць». На месцы спрабавалі раздуць сенсацыю», – кажа Аляксандр Капёнкін.

Рассылка прома-матэрыялаў пачалася з уручэння дыска прадстаўнікам Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, дэлегацыі якой так спадабаўся наш дуэт, што яны не сталі чакаць афіцыйнай рассылкі. Дарэчы, першы дыск з сінглам «Мой Галілей» адправіўся таксама ў Афрыканскую рэспубліку. Магчыма, ужо з наступнага года Афрыка ўпадабае прыклад Еўропы і створыць нешта падобнае.

На агульнай нарадзе краін–удзельніц беларуская дэлегацыя дамовілася аб наведванні «АіК» нашых суседзяў – Літвы, Латвіі, Украіны (заўважце, у спісе няма ні Расеі, ні Польшчы). Ва Украіне нашых артыстаў, акрамя выступленняў на тэлебачанні і ў радыёэфіры, запрасілі і на фестываль «Таўрыйскія гульні», які звычайна збірае да 100 тысяч гледачоў і транслюецца на два каналы. Фестываль пройдзе 1 і 2 траўня. Але «АіК» адмовіліся ад удзелу ў ім на карысць адпачынку перад дарогай.

У Стамбул наша дэлегацыя расейскім рэйсам «Аэрафлота» выпраўляецца ўжо 3 траўня. Праз два дні, 5 траўня, адбудзецца першая рэпетыцыя. Нашым выпала рэпетаваць уранку. Усе рэпетыцыі не больш за сорак хвілінаў. 7-га плануюцца тры генеральныя прагоны з праглядам відэазапісу, яго аналізам, запросінамі гледачоў (квіткі ўжо раскупленыя) і прэсавай канферэнцыяй. Кошт білетаў на паўфінал вагаецца ад 30 да 50 еўра, на фінал – ад 65 да 100. Акрамя Аляксандры, Канстанціна, Андрэя Палаўчэні (акарына) і бэк-вакалістаў: Вячаслава Шарапава («Песняры»), Пятра Ялфімава («Песняры»), Эдуарда Альтшулера (майстра па святле і гуку), у яе ўваходзіць Аляксандр Капёнкін (кіраўнік дэлегацыі), Наталля Чарнюк (харэограф), каардынатар



конкурсу ад Дырэкцыі міжнародных сувязяў Белтэлерадыёкампаніі Аляксей Калеснікаў, а таксама тэлеаператар і грымёр-касцюмер– усяго 13 чалавек, так бы мовіць, чортаў тузін.

«Намеснік кіраўніка паліцыі горада падчас сваёй прамовы на сустрэчы з намі, удзельнікамі дэлегацый, абяцаў трывалы правапарадак (напрыклад, за кожнай дэлегацыяй абавязкова будзе замацаваны не толькі гід ды паліцэйскі, а і ад трох да пяці «чалавек у цывільным») на час правядзення «Еўравізіі–2004». Яго даклад быў прысвечаны відам парушэнняў. Але падчас дакладу ў зале раптам патухла святло і адключылася абсталяванне... Баскетбольная ж пляцоўка «ABDI IPEKSI ARENA», на момант наведвання яе нашай дэлегацыяй, на вялікае здзіўленне, мела свой звычайны спартовы выгляд. Туркі абяцаюць, што да прызначанага тэрміну яны паспеюць. Але сцэну мы пабачылі пакуль толькі на чарцяжах іхніх спецыялістаў», - падзяліўся Аляксандр Капёнкін.

Як бачна, шмат чаго яшчэ не падрыхтавана там. А што ж у нас?

За плячамі ў «АіК» рэпетыцыі з бэк-вакалам і заняткі з псіхолагам. Пачынаючы з 9 красавіка артысты заваёўваюць сэрцы суседскай публікі.

Белтэлерадыёкампанія ў пошуках таго чалавека, які на 1,5 хвіліны з'явіцца на экране, каб аб'явіць адзнакі, якія выставім мы з вамі ўдзельнікам «Еўравізіі-2004». Асноўныя патрабаванні – добрая англійская мова, прыемная знешнасць, пачуццё гумару. Вакансія вядучай (ага) яшчэ не вызначана. Спрабуюць сябе ў гэтай ролі і студэнты, і некаторыя тэлевядучыя.

У чатырох музычных студыях (у тым ліку ў адной маскоўскай) перакладаюцца фанаграмы для сцэны. З конкурсу песні, паводле заўваг спецыялістаў, «Еўравізія» становіцца конкурсам гуказапісваючых кампаній.

Харэограф Наталля Чарнюк вывучае план сцэны, прыдумвае расстаноўку спевакоў. Мадэльер Іван Айтплатаў перамог у конкурсе сярод тых, хто прапаноўваў свае варыянты сцэнічных і «на выхад» строяў. Зараз ён стварае такія канцэртныя касцюмы, «каб у іх не чытаўся фольк». Заўважым, што якраз фолькавыя матывы былі вызначальнікамі ў іміджы дуэта.

### Слова пра галасаванне

Беларусам дадуць праявіць сваю актыўнасць, прыняўшы ўдзел у галасаванні і 12, і 15 траўня. Толькі вось галасаванне на гэты раз мае адбыцца за грошы. За якія пакуль, на жаль, не вядома (дарэчы, галасаванне на дзіцячым «Еўрабачанні-2003» таксама было платным). Нямецкая тэлефонная кампанія «DeutscheTEkom» бярэцца за яго ажыццяўленне і кантроль. Яе рэгіянальным партнёрам у нашай краіне будзе «Тэлеколл-Інфа». Свае дадзеныя «Тэлеколл-Інфа» будзе дасылаць у Нямеччыну, адтуль, ужо апрацаваныя, яны прыйдуць да нас, вядоўцу застанецца іх аб'явіць. Колькасць тэлефанаванняў і кошт аднаго (на канферэнцыі прагучалі прыблізныя лічбы – 500 рублёў) стануць вядомыя пазней.

Галасаваць у паўфінале будуць усе краіны, што бяруцца трансляваць яго, акрамя Расеі, Польшчы і Францыі, прадстаўнікі якіх не прымаюць удзел у паўфінале. У паўфінале колькасць балаў, якую набяруць удзельнікі, аб'яўляцца не будзе. Назавуць толькі 10 мацнейшых паўфіналістаў. Дадзеная мера зэканоміць час, якога кожнаму «выбаршчыку» будзе дадзена ўсяго дзесяць хвілінаў.

### Музыку заказвалі?

Праектны бюджэт 49-га конкурсу на лепшы еўрапейскі хіт роўны 11.000.000 швейцарскіх франкаў (суадносіны франка да долара: 1 да 1,27). Бюджэт складаецца з унёскаў краін-удзельніц, але Германія, Іспанія, Вялікабрытанія і Францыя ў найбольшай ступені вызначаюць матэрыяльную базу (таму іх прадстаўнікі на «Еўравізіі-2004» абавязкова ўваходзяць у фінальную дзесятку). І вельмі шкада, што зусім натуральную цікаўнасць карэспандэнта «Новага Часу», колькі беларусам будзе каштаваць удзел у еўрабасце, супрацоўнікі Белтэлерадыёкампаніі не задаволілі. Прапанавалі падлічыць самастойна. Былі названыя і крыніцы выдаткаў: унёсак краіны (паводле расейскіх сайтаў – каля 5.000 даляраў), арганізацыя Нацыянальнага конкурсу, тур па суседніх краінах, два кліпы, пашыў канцэртных і «на выхад» строяў, дарога (туды–назад каля 300 даляраў), пражыванне (ад 50 да 150 еўра, цана за месца ў гатэлях Стамбула) і г.д. «Усё фінансаванне ажыццяўляецца з кішэні Белтэлерадыёкампаніі. І мы не хаваем, што гэта пакуль самая вялікая сума, якую наша кампанія калі-небудзь укладала ў праект такога параўнальна кароткага перыяду» – вось што канкрэтна прагучала ў адказ на пытанне. Але не будзем забывацца на тое, што амаль шостая частка рэспубліканскага бюджэту (больш за 200 млрд. рублёў), разлічаная на культуру і дзяржаўныя СМІ, дакладна трапляе ва ўзгаданую кішэню. Якім чынам з'яўляюцца грошы ў рэспубліканскім бюджэце, нікому не трэба тлумачыць.

***

Прапанову ж аб'яднацца беларусам Аляксандры і Канстанціну з мальтыйцамі Жулі і Людвігам артысты ўспрынялі як жарт, упершыню пачуўшы ад аднаго карэспандэнта, які затэлефанаваў ім якраз даведацца пра іх рашэнне.

**Алеся МАТУСЕВІЧ**







Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Лицензия №02330/0056677 от 29.03.04.
220108, Мінск, вул. Каржанеўская, 14. Замова № 253
Падпісана да друку 21.04.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.